

Матуральныя іспыты ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Яўген Карняг у Беластоку ➔ 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 23 (3134) Год LXI | Беласток, 5 чэрвеня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Фота Міры Лукшы



■ На сцэну „Змены клімату» Ганна Пякарская запрасіла ўсіх хто кіраваў БАСам і дзейнічаў у ім ды наймалодшае пакаленне басякоў з кветкамі. Яўген Вапа, Уладзімір Пац, Барбара Кучынская-Пякарская, Юры Сульжык, Тамаш Тапалеўскі, Лукаш Сцепанюк, Андрэй Карчэўскі, Міраслаў Пац, Ілона Карпюк, Радаслаў Дамброўскі, Мажэна Саевіч, Оля Максімюк, Кася Кузьміч, Матэвуш Севастыянік...
Дзякавалі Міністэрству, Радыё Рацыя, Фонду Віла Сакратас, Лёніку Тарасэвічу, Юрку Асенніку, Паўлу Грэсю... за тое, што заўсёды былі побач і падтрымлівалі БАС і цёплым словам, і жорсткім словам...

# БАС.35

Bielaruskaje Abjadnannie Studentaŭ 1981-2016

**Было**

Найстарэйшая беларуская незалежніцкая арганізацыя ў Польшчы — Беларускае аб'яднанне студэнтаў — святкуе юбілей. У першай палове 1981 года група студэнтаў, этнічных беларусаў з Польшчы, вырашыла аб'яднаць намаганні для абароны сваіх правоў і захавання нацыянальнай тоеснасці. Актывізацыі асяроддзя беларускіх студэнтаў у Народнай Польшчы паспрыяла некалькі акалічнасцей, якія моцна звязаны былі з ажыўленнем польскага грамадства ў цэласці. *Часіна была неспакойная, усё здавалася хісткім і зыбкім. У студэнцкім асяроддзі Польшчы вірылі напорыстыя патрыятычныя лозунгі і настроі, мяжуючыя з нацыянальнай маніяй вялікасці*, — пісаў пра гэты час ва ўспамінах пра пачатак беларускага руху Ян Максімюк („Сустрэчы", 1987). Пачатак 1981 года прынёс студэнцкія забастоўкі ў сувязі з адмовай рэгістрацыі агульнапольскага Незалежнага згуртавання студэнтаў. Ян Максімюк піша, што ў такой сітуацыі варшаўская тусоўка студэнтаў з Беласточчыны, якая гуртавалася не проста на нацыянальнай глебе, але **на пачуцці супольнасці бацькоўскай спадчыны, мовы, рэлігіі**, патрабавала нейкай новай формы яднання, каб выявіць свой уласны, незалежны погляд. Выявілася думка, каб асяроддзе студэнтаў беларускага паходжання, так варшаўскае, як і беластоцкае, аб'ядноўваць на нацыянальным узроўні. Паспрыялі гэтаму вонкавыя абставіны, якія проста стваралі добрую сітуацыю для выяўлення сваёй нацыянальнай тоеснасці. Штуршком да дзеянняў была сустрэча групоўкі беларускіх студэнтаў (Яўген Рыжык, Іван Гаворка, Ян Максімюк) з прадстаўнікамі студэнцкага асяроддзя іншых нацыянальных меншасцей — літоўскага і ўкраінскага, да якой дайшло на пачатку траўня 1981 года ў варшаўскім памяшканні БГКТ. Літоўцы і ўкраінцы запрапанавалі тады стварэнне супольнага фронту для рэгістрацыі студэнцкіх арганізацый нацменшасцей. 18 снежня 1980 года міністр навукі выдаў распараджэнне, якое стварыла магчымасць рэгістрацыі студэнцкіх арганізацый. Распараджэнне стала асновай няўдалай спробы (люты 1981 г.) арганізаваць літоўцамі сваю студэнцкую суполку. Недахоп рэгістрацыі выходзіў толькі з фармальных хібаў складзенага статута, таму сітуацыя абнадзейвала студэнтаў у магчымасці стварэння ўласных арганізацый (М. Гайдук, М. Шаховіч, *БАС*, „Ніва", 1981, № 50). Плёнам гэтай сустрэчы быў агульны сход студэнтаў варшаўскага беларускага асяроддзя, праведзены 3 мая 1981 г. у памяшканні БГКТ па вуліцы Сенатарскай, 8. Можна было б назваць яго ўстаноўчым сходам Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС), паколькі прысутныя на ім студэнты беларускай нацыянальнасці з Варшавы і Беластока палічылі сябе заснавальнікамі гэтай арганізацыі, зацвердзілі яе статут і выбралі дэлегацыю, якой даручана была рэгістрацыя ў Міністэрстве навукі, вышэйшых школ і тэхнікі (Ян Максімюк, *Успамін*, „Сустрэчы", 1987, № 2). Падобны сход адбыўся праз некалькі дзён у Беластоку. У выніку гэтых сустрэч 11 чэрвеня 1981 года было пададзена ў Міністэрства навукі адпаведнае прашэнне. У статуце БАС студэнты запісалі наступныя ***мэты дзейнасці*** свае арганізацыі: развіванне грамадскай, культурнай і навуковай актыўнасці беларускай акадэмічнай моладзі ды дбайнасць пра ўсебаковае развіццё іхняй індывідуальнасці; дзеянні ў напрамку пашырэння талерантнасці і пашаны для традыцый ды новых каштоўнасцей распаўсюджваных у студэнцкім асяроддзі; прапагандаванне стаўленняў, якія спрыяюць сяброўскім адносінам паміж беларускім ды польскім асяроддзямі, як і іншымі, якія пражываюць на тэрыторыі Польшчы; актыўны ўдзел у рэалізацыі задач вызначаных акадэмічнай моладдзю (у акадэмічным, праслойкавым ды дзяржаўным маштабе); ахова правоў членаў арганізацыі.

У спосабах рэалізацыі вызначаных мэт статут пералічваў рэпрэзентацыю членаў арганізацыі перад уладамі, так дзяржаўнымі, як і акадэмічнымі, супрацоўніцтва з іншымі маладзёжнымі арганізацыямі, арганізацыю навуковай і культурнай дзейнасці студэнцтва, папулярызацыю беларускай культуры і гісторыі ў студэнцкім асяроддзі, супрацоўніцтва з БГКТ, выдавецкую, асветніцкую, публіцыстычную ды турыстычную дзейнасць. Ініцыятыва студэнтаў стварыць БАС была, аднак, адмоўна прынята органамі ўлады. За час канікул адпаведнае міністэрства двойчы адмовіла ў рэгістрацыі арганізацыі БАС як агульнапольскай студэнцкай арганізацыі. У выніку гэтага на кастрычніцкай сустрэчы студэнтаў-беларусаў у Беластоку, на якой прысутнічала каля 200 чалавек, было прынята рашэнне пра рэгістрацыю гурткоў пры паасобных вышэйшых школах. Аднак па прычыне палітычнай сітуацыі ў краіне, з увядзеннем ваеннага становішча, якая-небудзь афіцыйная дзейнасць студэнцкага аб'яднання была спынена. Ужо ў 1981 годзе, яшчэ ў сітуацыі нявырашанай рэгістрацыі, студэнты заклалі былі асновы для дзейнасці характэрнай пазнейшаму БАСу. 17-18 кастрычніка прайшоў першы ў гісторыі студэнцкі пешы паход (**рэйд) па Беласточчыне** пад назвай „Залатая восень", у лістападзе арганізаваны былі атрасіны для студэнтаў першага курса, створаны быў таксама бюлетэнь „Апошнія паведамленьні БАС". Спыненне буйнасці грамадскага жыцця, вымушанае ўвядзеннем ваеннага становішча, спыніла магчымасць далейшага развіцця БАС. Толькі ў лістападзе 1982 г., калі агульнапольскае Сацыялістычнае згуртаванне польскіх студэнтаў ператварылася ў Згуртаванне польскіх студэнтаў (ЗПС), з'явілася магчымасць афіцыйнай рэгістрацыі арганізацыі студэнтаў нацыянальных меншасцей. Па супольнай ініцыятыве беларусаў, украінцаў і літоўцаў пры Галоўнай радзе ЗПС устаноўчы з'езд гэтай арганізацыі стварае Агульнапольскую раду культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей (АРК СНМ), якой прэсавым органам стаў часопіс „Spotkania" („Сустрэчы"). Наступным крокам беларускіх студэнтаў была рэгістрацыя асобных Культурных рад студэнтаў беларускай нацыянальнасці (КР СБН) спярша ў Варшаве (16 красавіка 1983 г.), пасля і ў Беластоку (як Беларуска-літоўская рада студэнтаў). Набыўшы афіцыйны статус (хаця і ў рамках агульнапольскай арганізацыі), беларускія студэнты маглі пачаць дзейнасць, да якой раней не хапала проста магчымасцей, фінансавых рэсурсаў, пачаты былі ўжо раней прыдуманыя і ажыццяўляныя інцыятывы, напрыклад, рэдагаванне часопіса „Сустрэчы". Развівалася турыстычная дзейнасць, мэтай якой было таксама патрыятычнае выхаванне. У заяўцы першага, найбольш маштабнага, рэйду „Бацькаўшчына", яго арганізатар Лявон Тарасэвіч пісаў: *На невялікай у сусветным маштабе Беластоцкай зямлі для нас, беларусаў у Польшчы, ёсць усё, што патрабуецца дзеля зразумення свае адметнасці і свайго радаслоўя* („Ніва", 1984, № 24). Традыцыйна арганізаваліся таксама мерапрыемствы, прызначаныя канкрэтна для студэнцкага асяроддзя, такія як „атрасіны" першакурснікаў, а таксама сустрэчы, даклады, запусты, вечарынкі-лекцыі, навагоднія балі, а таксама мерапрыемствы арганізаваныя з нагоды святкавання нацыянальных святаў. Студэнты згуртаваныя ў радах культуры не абмяжоўвалі свае дзейнасці выключна да свайго асяроддзя, бо супрацоўнічалі з БГКТ, рабілі спробы ўвядзення

працяг ☞ 11



# Адцені зайздрасці

Праходзіў я днямі каля адной гандлёвай крамы і рэзнула мне вока рэклама яе прадукцыі. Гучала яна так: „Купите новые шторы — на зависть соседям!". Як для мяне — дык гэта, калі крыху задумацца, абсалютная антырэклама. Ніколі не куплю ў іх гэтых штораў. Проста ані ў якім разе не хочацца, каб суседзі мне зайздросцілі хоць у чым. Разам з тым, разумею, што вытворцы і прадаўцы — не ворагі самі сабе. І калі ўжо выставілі такі рэкламны слоган — дык ведаюць, што робяць, улічваюць характар і рысы патэнцыйных пакупнікоў. Ключавое тут слова „зайздрасць". І сапраўды пасля страху, які паралізуе сумленне, прыстойнасць і нават розум, сярод насельнікаў нашага краю бадай самае моцнае менавіта гэтае пачуццё — пачуццё зайздрасці да бліжняга. Пачуццё менавіта зайздрасці. То амаль непрыхаванай нічым, то нейкай перакручанай ашчаднасці, якая непрыкметна для носьбітаў перарастае ў пастаянны стан, сквапнасць і сутнасць. Зайздрасць да ўсіх, хто на нешта здольны: зайздрасць да чалавека, які здольны на смелы ці нестандартны ўчынак, зайздрасць да таго, хто ўмее зарабіць сваім розумам ці фізічнай працай, нават зайздрасць да таго, хто можа лёгка патраціць заробленае, зайздрасць да незалежных, да вясёлых, да аптымістычных людзей. Такая вось масавая нацыянальная рыса, выхаваная яшчэ ў савецкі час, калі ўсе павінны былі быць роўнымі, а дакладней аднолькава беднымі матэрыяльна і шэрымі, безаблічнымі духам і паставамі. Ну а паколькі ўжо больш дваццаці гадоў адбываецца мэтная рэстаўрацыя ўсяго савецкага, то няма чаго дзівіцца, што ідзе рэкультывацыя і найгоршых рысаў чалавека, развіваюцца яны на канкрэтнай глебе дзяржаўнай ідэалогіі. Таму клас „шарыкавых" не толькі не змяншаецца, а толькі расце. Менавіта такія пасля 1917 года, у ленінска-сталінскі час, забівалі і цкавалі заможных людзей, дбайных гаспадарнікаў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, дзялілі чужую маёмасць, марадзёрствавалі, рабавалі, гвалцілі. А пачатковым, стартавым штуршком была менавіта зайздрасць — слізкая паскудная ўласцівасць чалавека, якая вядомая яшчэ ад біблейскага Каіна.

Для большыні людзей нашага грамадства самым прывабным і жаданым ёсць тое, чаго яны не заслужылі, ці іншым народным словам — халява. Як кажуць, на халяву і воцат салодкі. Таму і кідаюцца такія людзі, прыкладам, у аддзелы, дзе прадаюць канфіскаваныя тавары. Асабіста я ніколі не куплю ў такой краме нічога прынцыпова. Ва ўсім цывілізаваным свеце канфіскат звычайна знішчаецца, магчыма некуды перадаецца задарма. І толькі ў савецкай Беларусі (не ведаю, як у сённяшняй савецкай Расеі) існуюць такія адмысловыя аддзелы экспрапрыяванага продажу. А яшчэ не куплю больш з прычыны таго, што вельмі часта гэтыя тавары канфіскуюцца незаконна і несправядліва.

Але ёсць такі панятак, і як „светлая зайздрасць". Гэта і не зайздрасць увогуле, а пэўны від своеасаблівай радасці за іншых. Па светламу зайздрошчу ўсім нашым суседзям — палякам, латышам, літоўцам, цяпер вось яшчэ і ўкраінцам, якія вялі ці вядуць дэкамунізацыю і дэрусіфікацыю сваіх краін. Катарсіс пачынаецца менавіта з гэтага працэсу — адмаўлення ад усяго пачварнага і навязанага звонку чужынцамі. І хай колькі заўгодна савецкая прапаганда бэсціць тых, хто імкнецца развітацца з ганебным мінулым, з фальшывымі героямі і прыдуманай кніжнай гісторыяй. Гэта зусім не нейкія дробязі ці помста ганебнаму мінуламу. Сімволіка — гэта не толькі нейкія знешнія атрыбуты. Сімволіка — гэта яшчэ сутнасць стану грамадства, праверка яго духоўнай сутнасці. І пакуль на пляцах беларускіх гарадоў будуць стаяць помнікі крывавым леніным-сталіным-дзяржынскім і ім падобным, ніколі не будзе тут нічога нармальнага, людскага, перспектыўнага. Пакуль мазгі будуць перавернутыя да такой ступені, што зайздрасць асаблівага кшталту будзе прыводзіць людзей да прагі чужога, нармальнага грамадства нам не збудаваць.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Непрытворства



Яраслаў Качынскі, які праз сваіх паслугачоў з Права і справядлівасці паслядоўна дэмантуе дэмакратычны лад у Польшчы, абапіраючыся на як найбольш дэмакратычныя — а як жа ж! — прынцыпы. У нядаўнім інтэрв'ю «Польскай газеце» ён пракаментаваў наступным чынам: «Еўрапейскія эліты не ў стане прыняць дэмакратычны выбар палякаў. Не адпавядае ім гэты выбар, таму што ён несумяшчальны з іх інтарэсамі. Мы, у сваю чаргу, упаўнаважаны выбаршчыкамі, каб абараняць інтарэсы Польшчы». Іншымі словамі, Яраслаў Качынскі заявіў тое, чаго ён не хацеў проста сказаць: «Таму што мы былі дэмакратычна абраныя, з дэмакратычнай волі нашых выбаршчыкаў маем права знішчыць дэмакратыю». Пажывем, пабачым. «Яшчэ ніколі так не было, каб нешта не было», — казаў бравы салдат Швейк, герой вядомага рамана Яраслава Гашака. Яго выказванне цытую па памяці, але гэтае паведамленне, спадзяюся, не скажана.

Гашак меў на думцы «дзеянне» і спосаб спасылкі на яго. У агульнай складанасці, можна б назваць гэта «дзействам». «Дзейства» ў істотным разуменні, уяўляе сабой працэс складзены з незлічоных элементаў: як прыродных, так і тых палітычных, сацыяльных і нават маральных; індывідуальных, як і калектыўных, фармірующых рэчаіснасць. Усе яны ўплываюць адзін на аднаго; кожны з іх можа быць і рухаючай сілай гэтых і якіх-небудзь змяненняў, а таксама іх аддаленым фонам. Гэта азначае, што гэтыя элементы роўныя адзін аднаму ў той меры, наколькі тая рэальнасць, што яны ствараюць, гэта ёдзінае цэлае. З гэтага пункту гледжання зразумелая будыйская інтуіцыя, што паказвае на безумоўную бесперапыннасць прычынна-следчых сувязей, і выяўляецца ў тым, што «трапятанне крылаў спалоханага матыля над Амазонкай можа прывесці ў выніку землятрус на Антыподах». Таму «дзейства» гэта працэс, якога кантынуум паміж непрачытаным да канца мінулым і неазначальнай у наступствах будучыняй — і заўсёды становіцца зараз. На жаль, гэтае зараз няяснае, няўпэўненае, стварае ўражанне хаосу; турбуе кожнага з нас, адымае адчуванне сэнсу і сталасці рэчаў.

Салдат Швейк з сапраўды філасофскай памяркоўнасцю вызначае правільную меру для таго, што завязалася незалежна ад любога з нас у часам далёкім мінулым, і што адкрываецца прама зараз, і што накладзецца на найбліжэйшую і далейшую будучыню. У той жа час не трэба прымаць гэта фатальна. У працэсе змяненняў, якія адбываюцца ў той жа час негатыўныя, але і станоўчыя тэндэнцыі. Адны ўплываюць на іншыя. Нездарма ж Зло — вечная дэструкцыя, стаіць побач Дабра — бясконцай рэканструкцыі. Кітайцы змясцілі гэта ў метафізічнай канцэпцыі Інь і Ян, якая апісвае дзве першабытныя, сапернічаючыя, але дапаўняючыя адна адну сілы, якія фармуюць і Рэальнасць, і ўвесь Космас. Прытрымліваючыся гэтай канцэпцыі, без Інь не можа існаваць Ян. Без Дабра Зло. І наадварот. Абодва яны таму і ёсць, што застаюцца разам у далікатнай раўнавазе.

У свой час палітолагі абмяркоўвалі такое пытанне: ці Права і справядлівасць як палітычны суб'ект можа існаваць без Грамадзянскай платформы? Ці наадварот. Аказваецца, можа. І заадно не можа. Бо чым з'яўляецца сёння ПіС без падвялай ГП? Напэўна не гэтым ПіСам што было год таму. Цяпер ён выступае як пагардлівая ўлада, занятая толькі самой сабою. Горш за тое, нягледзячы на той выгляд клопату за народ, за польскую дзяржаву, ставіць сябе вышэй над «дзействам», не звяртаючы ўвагі, што ёсць толькі адным элементам бясконцага працэсу змен. А чым была б ГП без ПіС? Верагодна, стала б падобным, крывадушным тварэннем з псеўдаідэалагічным стаўленнем, якому характэрная адсутнасць праграмадзянскай логікі і павагі да правоў большасці. Дарэчы, праз павагу да правоў большасці праяўляецца павага да правоў меншасцей, што вынікае з праграмадзянскай логікі, разглядаючай кожнага грамадзяніна аднолькава, нароўні — як да яго праў і грамадзянскіх абавязкаў. І гэта называецца дэмакратыяй. І дэмакратыяй з'яўляецца. Не крывадушнасцю, прытворствам.

Міраслаў ГРЫКА



## Вачыма еўрапейца

# Маё развітанне з «Нівай»

Так паскладвалася маё жыццё, што пасля амаль пятнаццаці гадоў я вырашыў пакарыстацца дадзенай мне прапановай і змяніць працу — адыходжу з «Нівы». Вяртаюся ў «Выбарчую газету», з якой я быў прафесійна звязаны ў 1993-2000 гг. У «Ніву» я трапіў неўзабаве дзякуючы Міры Лукшы, з якой выпадкам пазнаёміўся ў легендарным неіснуючым ужо клубе мастакоў, журналістаў і розных творчых асяроддзяў у самым шырокім сэнсе «Маршанд» за некалькі тыдняў да рашэння з'яўлення як журналіста ў ніўскай рэдакцыі. Гэта якраз Міра, выслухаўшы абвешчанай мною адной з прыстолікавых гісторый пра маю бабулю беларуску Рэгіну, кінула каротка, але рашуча пераканаўча:

— Пішы ў «Ніву»!

Мяне прыняў з распасцёртымі абдымкамі тагачасны галоўны рэдактар Віталь Луба. Першы тэкст у «Вачах» — тады яшчэ «Вачах паляка» — апублікаваны быў у нумары ад 21 кастрычніка 2001 г. Меў ён загаловак «... адкуль мой род» і якраз бабулі Рэгіне быў прысвечаны ды ўвогуле сям'і з беларускімі каранямі з боку маёй мамы. Дарэчы, на працягу некаторага часу я выкарыстоўваў псеўданім: імя і прозвішча бабулі — Раіна Стэфанчук. Раней, аднак, пісаў я ўжо артыкулы большыя па аб'ёме. Самы першы апублікаваў я 2 верасня 2001 года і прысвяціў яго Сакрату Яновічу, які ў той час святкаваў 65-ю гадавіну з дня нараджэння. Невыпадкова я пачаў з такой публікацыі, звязанай з адным з найвялікшых еўрапейскіх пісьменнікаў. Сакрат Яновіч паяўляўся ў маім жыцці з дзяцінства. Быў ён блізкім сябрам маёй мамы, якая ў цяжкі перыяд яго жыцця (калі не мог знайсці працы) узяла яго на працу ў Культурна-асветніцкі цэнтр, якім кіравала. Сакрат нейк стаў часткай маёй сям'і, што я адчуваў з яго боку: раней — калі я працаваў у «Выбарчай газеце», а затым у «Ніве», калі заўсёды радасна вітаў мяне, між іншым, на ягоных «Беларускіх трыялогах», на якія я зрэдчас заглядаў. Такая ж вялікая сардэчнасць чакала мяне ад Георгія Валкавыцкага, першага галоўнага рэдактара «Нівы», які ў свой час, калі толькі мог, забягаў у рэдакцыю, каб «паглядзець, што чуваць». Ён быў адабраючым сведкам прапановы цяперашняга галоўнага рэдактара Яўгена Вапы, каб змяніць назву рубрыкі на «Вачыма еўрапейца» пасля далучэння Польшчы да Еўрапейскага Саюза 1 мая 2004 года, аб якім я ўжо раней часта не толькі ў «Вачах» пісаў.

Самай першай асобай, якая заахвочвала мяне пісаць у наш штотыднёвік была, аднак, не Міра Лукша, але Ада Чачуга, гадоў пяць раней, таксама ў тадышнім «Маршандзе», седзячы ў кампаніі вядомага ў Беластоку журналіста, мастацтвазнаўцы і тэатразнаўцы Андрэя Казяры. Яна сказала мне тады:

— Мацей, у цябе няма выйсця, раней ці пазней сам захочаш пісаць у «Ніву».

«Ніва» адкрывала перада мной як журналістам шматлікія дзверы. Толькі дзякуючы таму, што я яе прадстаўляў, пагадзіліся даць мне інтэрв'ю такія вялікія людзі польскай культуры ці палітыкі, як Тадэвуш Канвіцкі ці прафесар Марыя Янён, Лех Валэнса ці Аляксандр Квасьнеўскі. Дарэчы, серыю гутарак пра беларускую мову, беларусаў і Беларусь, якую ў сваёй 25-гадовай журналісцкай практыцы лічу за адну з найбольш важных, прапанаваў менавіта Яўген Вапа. У «Ніве» дзякуючы рэдакцыйнаму калектыву, і асабліва яе галоўнаму рэдактару Яўгену Вапу і Віталю Лубу заўсёды адчуваў я сябе свабодным журналістам, што ў гэтай прафесіі — на мой погляд — самае галоўнае. Ніхто мне тут нічога ніколі не навязваў, хутчэй прапанаваў. Не патрабаваў, хутчэй прасіў. Я пражыў тут найважнейшыя гады крыху спозненага даспявання да поўнай сталасці ва ўсіх сэнсах гэтай з'явы.

Наколькі змагу (калі час і сілы мне дазволяць) пастараюся час ад часу пісаць у «Ніву», хаця гэтага фельетона з наступнага нумара ўжо не будзе. Бо цяжка мне ўвогуле без вас, дарагія чытачы і без маіх ніўскіх сяброў уявіць сабе далейшае жыццё. Тым больш, што «Ніва» была са мной у самыя цяжкія моманты і ў многія, якія спрычыніліся да таго, што я мог глянуць і далей магу глядзець аптымістычна на жыццё. За гэта Вам, Чытачы і Рэдакцыя, сардэчна дзякую і тая ўдзячнасць ды памяць пра Вас упісана ўжо будзе ў маё жыццё да канца. Нават калі б я не хацеў, застануся беларусам, таму што ім сябе я адчуваю, а не толькі цячэ ўва мне такая кроў.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# **Матуральныя іспыты** па беларускай мове





■ Гайнаўскія выпускнікі радаваліся, што пісьмовы экзамен па беларускай мове завяршыў матуральны марафон і распачынаюцца найдаўжэйшыя ў іх жыцці канікулы, якія завершацца толькі з канцом верасня.

Пісьмовыя матуральныя экзамены для выпускнікоў Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў завяршыліся 24 мая пісьмовым іспытам па беларускай мове — у дзень святкавання ў гонар настаўнікаў славян, святых Кірылы і Мяфодзія. У Гайнаўскім белліцэі да матуральных экзаменаў прыступілі 106 выпускнікоў, а ў Бельскім белліцэі — 88. Толькі 5 ліпеня будуць вядомы вынікі пісьмовых матуральных змаганняў. Рэзультаты вусных экзаменаў, з якімі паспяхова справіліся былыя белліцэісты, станавіліся вядомымі ў дзень іх здавання. Выпускнікі белліцэяў атрымалі добрыя вынікі падчас вуснага экзамену па беларускай мове. Восем гайнаўскіх і пяць бельскіх белліцэістаў — лаўрэатаў і фіналістаў Алімпіяды па беларускай мове — былі звольнены з пісьмовага і вуснага экзаменаў па беларускай мове і атрымалі максімальную колькасць балаў. Усе мае суразмоўцы рашыліся працягваць вучобу ў вышэйшых навучальных установах Беластока, Варшавы і іншых гарадоў Польшчы, перш за ўсё ў політэхнічных інстытутах, універсітэтах і медыцынскіх акадэміях. Менш выпускнікоў белліцэяў, чым гэта было раней, рашаецца паступаць на гуманітарныя спецыяльнасці, за выключэннем юрыдычнага факультэта, куды надалей ёсць многа ахвотных.

24 мая наведаў я белліцэй у Гайнаўцы. Найчасцей выпускнікі выходзілі з пісьмовага экзамену па беларускай мове з усмешкамі на тварах, але гаварылі, што быў ён для іх больш складаны, чым пробная матура і мінулагодні пісьмовы іспыт. Аднак падчас гутаркі аказвалася, што задачы былі ім зразумелыя і ў агульным былі ў іх веды, каб справіцца з большасцю патрабаванняў. Найчасцей гаварылі, што іх запас слоў літаратурнай беларускай мовы не дазваляў выявіць усё тое, пра што хацелі напісаць і апасаліся памылак. Выпускнікам белліцэяў трэба было напісаць працу на адну з дзвюх тэм. 1) «Успаміны — крыніца шчасця, ці суму». Абмяркуй праблему і абгрунтуй свой погляд. Звяртайся да ніжэй пададзенага фрагменту тэксту «Галя» Янкі Брыля, цэлага твору і іншага тэксту культуры; 2) «Зрабі аналіз верша, пастаў інтэрпрэтацыйны тэзіс і абгрунтуй яго». Аналіз трэба было правесці на вершы Наталлі Арсенневай «Уваскрэсні», а праца па выбранай тэме павінна была налічваць не менш чым 250 слоў.

— Апрача напісання сачынення на выбраную тэму, трэба было нам справіцца з тэстам, у якім адказвалі мы на пытанні да двух тэкстаў, што тычыліся веганізму і вышыўкі, як вяртання да традыцый, — паінфармавалі гайнаўскія белліцэісты.

Дзень перад пісьмовым матуральным экзаменам па беларускай мове заехаў я ў Бельскі белліцэй, дзе размаўляў з дырэктарам і настаўніцай беларускай мовы.

— Нашы вучні паспяхова справіліся з вусным экзаменам па беларускай мове, калі выконвалі пастаўленую задачу і адказвалі на пытанне настаўніка са складу камісіі. Вынікі пісьмовых экзаменаў будуць вядомы ў пачатку ліпеня. Настаўнікі кажуць, што ў гэтым годзе пісьмовы экзамен па матэматыцы не быў складаным, але як з ім справіліся вучні акажацца толькі ў ліпені, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

— Узровень выказванняў на вусным экзамене па беларускай мове быў у нас высокі і мы спадзяемся, што нашы вучні таксама паспяхова справяцца з пісьмовым экзаменам. Калі ў нейкага вучня меншы запас слоў па літаратурнай беларускай мове, мы прапануем добра задумацца, ці на пісьмовым экзамене займацца аналізам верша. Падчас аналізу неабходна карыстацца канкрэтнымі словамі, — гаварыла настаўніца беларускай мовы Яўгенія Таранта.

Першыя выпускнікі Гайнаўскага белліцэя выходзілі ўжо пасля дзвюх гадзін змагання падчас пісьмовага матуральнага экзамену па беларускай мове, а апошнія выкарысталі амаль яшчэ гадзіну, правяраючы і папраўляючы напісанае.

— Пісьмовы экзамен па беларускай мове быў цяжкі. Я ў падставовай школе не вучылася беларускай мове і мне было больш складана справіцца з сачыненнем, але спадзяюся на станоўчы рэзультат пісьмовага іспыту, — заявіла Вольга Пашко з Пуціскаў.

— Я беларускай мове пачала вучыцца з другога класа падставовай школы ў Новым Корніне і ўжо 11 гадоў вучуся па-беларуску. Гэта дазволіла больш свабодна карыстацца беларускімі словамі і я старалася як мага найлепш справіцца з пісьмовай работай па беларускай мове. Мая сястра вучыцца ў белгімназіі і хоча паступаць у белліцэй, бо тут добрая атмасфера, — гаварыла Наталля Сямяцкая з Новага Беразова. Пра добрую атмасферу ў Гайнаўскім белліцэі гаварылі таксама іншыя белліцэісты.

— Я ў падставовай школе не вучылася беларускай мове, але спадзяюся на станоўчы рэзультат экзамену па беларускай мове. Палічыла словы ў пісьмовай працы і іх было больш чым 250, — заявіла Кінга Пуц. Яна і большасць выпускнікоў белліцэя пісалі сачыненне на тэму «Успаміны — крыніца шчасця, ці суму», паводле твора «Галя» Янкі Брыля і іншага тэксту культуры.

— Каб аналізаваць вершы, трэба любіць гэта рабіць, — гаварылі мне многія выпускнікі белліцэя, якія пісалі працу па творы «Галя» Янкі Брыля.

Асобы, якія аналізавалі верш Наталлі Арсенневай «Уваскрэсні», найчасцей гаварылі, што ўзнікненне незалежнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь успрымаюць як здзяйсненне слоў Наталлі Арсенневай аб уваскрэсенні беларускага народа.

— Я рашыўся аналізаваць верш, бо сам пішу вершы і для сябе іх аналізую. Паспрабаваў я пісаць вершы таксама па-беларуску. Лічу, што стварэнне самастойнай беларускай дзяржавы Рэспублікі Беларусь не абазначае яшчэ ўваскрэсення цэлага беларускага народа да самастойнага жыцця, але толькі яго часткі. Каб аналізаваць такую тэму, трэба ведаць нашу гісторыю і арыентавацца ў грамадскім і палітычным жыцці сённяшняй Беларусі, — сказаў Матэвуш Чурак з Белавежы. — Я прыйшоў у белгімназію і белліцэй з пачатковай школы ў Белавежы, дзе тады не было навучання беларускай мове, са свядомасцю, што я паляк. Тут стаў разумець свае беларускія карані і развіваць беларускую свядомасць. Тое, што мы жывем у Польшчы, нічога яшчэ не абазначае наконт нацыянальнай свядомасці.

Іншая белліцэістка з Белавежы Анна Ляўчук заявіла, што дома з бацькамі размаўляе на дыялектнай беларускай мове, а беларускай літаратурнай мове пачала вучыцца ў гімназіі ў Белавежы і працягвала яе вывучэнне ў белліцэі. Зараз станоўча ацэньвае аднаўленне беларускай мовы ў школе ў Белавежы, бо вучням лягчэй будзе вучыцца беларускай мове ў белліцэі.

— Мы рашыліся аналізаваць верш Наталлі Арсенневай «Уваскрэсні», бо яе творы цікавыя, напісаныя ў патрыятычным духу. Паэтэса марыла аб незалежнай беларускай дзяржаве і параўнала яе да Уваскрэсення Гасподняга. Што тычыцца веганізму, то ведаем адну асобу, якая стараецца трымацца гэтай ідэі і не спажываць прадуктаў з мяса жывёл, але гэта ў нас вялікая рэдкасць. Беларуская вышыўка нам падабаецца, але на яе таксама няма ў нас моды, — сказалі Дар'я Чыквін і Мартына Малашэўская. Дзяўчаты дабавілі, што з сумам развіталіся з белліцэем і сваімі сябрамі, бо ў школе была добрая атмасфера, палюбілі настаўнікаў і завязалася многа сяброўстваў.

— У Польшчы паяўляецца мода на веганізм, то і да нас можа прыйдзе. Покі мы мяснога не ядзім толькі падчас посту. Народная вышыўка (яе тычыўся другі публіцыстычны тэкст) у нас таксама не прынялася, прынамсі ў такім маштабе, як у Беларусі, дзе вышыўка модная, — гаварыла Сандра Палавянюк.

Яна і многія яе сябры пісалі працу на тэму «Успаміны — крыніца шчасця, ці суму». Абмяркоўвалі гэтую праблему і давалі свой погляд на падставе твора «Галя» Янкі Брыля. Успаміны, гаварылі яны, часцей за ўсё з'яўляюцца крыніцай суму або суму і шчасця адначасна.

— Аўтар тэксту аб вышыўцы не з'яўляецца беларусам і пра вышыўку выказваецца з нейкім сарказмам і таму трэба было задумацца, покі даць адказ на пытанні да гэтага тэксту. Верш Наталлі Арсенневай «Уваскрэсні» цікавы. Аналізуючы яго, я паставіла тэзіс, што беларускі народ усё ж уваскрэс, ствараючы Рэспубліку Беларусь, — сказала Магда Гаўрылюк.

Многія выпускнікі белліцэяў вучобу літаратурнай беларускай мове пачыналі ў падставовай школе. Зараз бацькі запісваюць сваіх дзетак вучыцца роднай мове ў пачатковай школе з думкай, што пасля працягнуць яны вучобу ў нашых белліцэях.

— Зараз у нас ёсць столькі заяў паступіць у Бельскі белліцэй, што на іх падставе можам стварыць тры першыя класы. Аднак частка вучняў падае заявы ў некалькі школ і можа аказацца, што назбіраецца вучняў толькі на два першыя класы. Вучні трэціх класаў гімназій могуць падаваць заявы паступіць да нас ужо ў маі і чэрвені, але будзем прымаць іх таксама ў ліпені і жніўні, каб набраць як найбольш першакласнікаў. Даўно мінуў час, калі мы прымалі ў ліцэй толькі лепшых вучняў і адмаўляліся прымаць усіх ахвотных, бо не было ў нас умоў ствараць дадатковыя першыя класы. Зараз, з году на год меншае колькасць выпускнікоў гімназій у Бельскім павеце, а апошнім часам штораз больш вучняў рашаецца працягваць вучобу ў звышгімназічных школах Беластока. Здольныя вучні паступаюць у лепшыя беластоцкія ліцэі і звышгімназічныя школы. Частка вучняў рашаецца на Беласток таксама таму, каб вучыцца далей ад дома, — заявіў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**




■ Хор «Преображение»

# Музыка
## нябесных сфер (2)

**Пяць хароў з Беларусі выступілі ў сёлетнім юбілейным XXXV выпуску Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2016» у Беластоку. Адрэкамендавалі яны сябе побач дваццаці васьмі іншых харавых калектываў з Еўропы, Аўстраліі і Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў ва ўсіх конкурсных катэгорыях. Так як і іншыя сёлетнія хары, таксама беларускія вядомыя назіральнікам фестывалю — у мінулыя гады былі яго лаўрэатамі.**

Камерны хор «Преображение» (другое месца ў катэгорыі парафіяльных хароў) Барысаўскай дзіцячай музычнай школы мастацтваў і прыхода Раджаства Хрыстова пад кірункам а. Сяргея Пракопчыка быў заснаваны ім у 2010 г. У яго рэпертуары маюцца песні розных эпох, у шматлікіх жанрах і стылях, са спасылкай на старажытныя візантыйскія, грэцкія, балгарскія і рускія традыцыі. Хор таксама актыўна займаецца дабрачыннасцю. У 2013 годзе атрымаў ён званне народнага. Яго члены сустракаюцца два разы на тыдзень. Айцец Пракопчык займаецца не толькі музычным, але і духоўным, рэлігійным развіццём харыстаў. Сяброўка хору, прафесійная выкладчыца адной з музычных школ Наталля Гаўрылава ў размове з «Нівай» сказала:

— Для кожнага з нас спяванне царкоўнай музыкі гэта шлях да Бога і любоў адзін да аднаго ўзаемна. Калі мы спяваем, адчуваем святло, чысціню і радасць жыцця. Напаўняемся нябеснай, боскай прыгажосцю. Гэта наша жыццё. Сэнс спявання заключаецца ва ўслаўленні Бога. Самым важным з'яўляецца шчырасць, прастата і малітоўнасць. Музыка, якая ідзе ад сэрца спевака, ідзе да сэрца слухача. Калі прагучыць нейкі фальш, у шырокім сэнсе, ніхто не будзе адчуваць прыгажосці музыкі. Мы пастараліся падрыхтаваць для фестывалю яркія творы з пункту гледжання іх музычнасці, гармоніі, каб слухачам было цікава, а не толькі нам — іх выканаўцам.

Не скрывала таксама:

— У гэтым хоры я ставіла першыя крокі. Перад тым як прыступіла да яго, я не хадзіла ў царкву. Для мяне пачатак удзелу ў хоры звязаны з першымі крокамі ў духоўны свет Праваслаўнай царквы. Інакш ужо не магу. Я буду ісці па гэтым шляху, які накіраваны да Бога, і я думаю, што шляху назад у мяне няма.

Хор студэнтаў Дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта «Cantus Juventae» з Мінска (вылучэнне ў катэгорыі аматарскіх свецкіх хароў) існуе з 1986 г. Песні выконвае на чатырнаццаці мовах. Ён прызнаны ва ўсім свеце, лаўрэат многіх харавых фестываляў, у тым ліку гайнаўскага ў 2009 г. У размове з «Нівай» дырыжор Павел Шэпелеў, педагог, былы дырыжор Хору радыё і тэлебачання РБ, якога адным з настаўнікаў музыкі быў памерлы ў 2007 годзе легендарны дырыжор Віктар Роўда (былы член журы фестывалю), сцвярджаў:

— Царкоўная музыка з'яўляецца вялізным абшарам харавой музыкі ў цэлым. Я маю справу з ёю дзякуючы настаўнікам, якія ў свой час, гэта значыць, калі мне было 13-14 гадоў, мяне прывучылі. Першы раз на фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы трапіў я ў 1989 годзе, калі мне было 14 гадоў. І ўжо тады царкоўная музыка глыбока ўпала ў маю душу. Потым некалькі разоў я прыязджаў на фестываль з рознымі харамі. Без царкоўнай музыкі ні адзін хор не можа абысціся. Гэта музыка, якая прыносіць задуменнасць, павінна быць у рэпертуары кожнага хору. І гэта важна не толькі для выканаўцаў як музыкаў, але таксама для звычайных людзей, якія ў многіх момантах свайго жыцця дзякуючы ёй могуць больш глыбока задумацца — падумаць пра Бога. Гэта самы прыгожы род твораў харавой музыкі. Мала таго, што скрывае глыбіню ў тэкставым слоі, але хвалюе сама прыгажосць гэтай музыкі.

* * *

Узорны хлапечы Хор з дзіцячай мастацкай школы ў Светлагорску (катэгорыя дзіцяча-моладзевыя хары) вядзе і дырыжыруе ім Галіна Урыеўская-Яўсюкова. Дзейнічае ад трынаццаці гадоў і ад дзесяці прыняў удзел у больш чым двухсот канцэртах. Выступаў на фестывалі «Гайнаўка-2009». Ганаровае званне ўзорнага атрымаў у 2006 годзе. Спяваюць у ім хлопцы ва ўзросце 9-14 гадоў. Спадарыня дырыжорка прызналася «Ніве» ў чым сакрэт працы з дзецьмі падчас працы над царкоўнай музыкай:

— Перш за ўсё трэба адкрыць іх душы, каб царкоўная музыка пранізала іх сэрцы, каб звярнуліся да Усявышняга. Для таго, каб зразумелі, што гэта не свецкая музыка, што яна патрабуе значна больш эмоцый, што яе энергетыка цалкам іншая. І гэта музыка таемная, якая ідзе ад душы, яе сутнасць — ад сэрца. Калі дзеці разумеюць і адчуваюць гэта, звяртаюцца да слова Божага. Многае ім дае тое, што часта выступаюць у цэрквах. Сыходзіць на іх колер сцен, пранікнутых малітвамі. Падчас працы з імі важна, каб былі свядомымі свайго голасу ў якасці інструмента, і каб кожны адчуваў сябе ў групе, што ён вельмі важны. Гэта важнае таксама для іх духоўнага развіцця, каб мець кантакт з нашай спадчынай, не толькі царкоўнай, духоўнай культуры.



■ Хор з Дубая

15-гадовы Аляксей Новік, харыст хлапечага хору:

— Спадарыня Галіна прыгарнула нас у хор ужо ў малодшых класах пачатковай школы на конкурснай аснове. Я хрысціянін і царкоўная музыка з'яўляецца часткай маёй культуры. Мабыць, без гэтай музыкі не было б ува мяне такой глыбокай веры.

Яго калега з хору 14-гадовы Філіп Завадскі, якога бацька з'яўляецца пастарам евангелічнай царквы ў Мінску:

— У пачатку я не зусім зразумеў, у які я прыйшоў хор, што гэта з'яўляецца часткай нашай беларускай культуры. Дзякуючы царкоўнай музыцы я інакш гляджу на свет.

Жаночы камерны хор Нацыянальнага каледжа музыкі з Гродна (трэцяе сумеснае месца ў катэгорыі хароў музычных акадэмій) існуе з 1969 года. Яго рэпертуар уключае ў сябе царкоўную музыку класікаў і сучасных беларускіх кампазітараў. У хоры спяваюць дзяўчаты ва ўзросце 15-19 гадоў. На працягу года праводзіць ён каля трыццаці канцэртаў. Дырыжор, заслужаная дзячка культуры Рэспублікі Беларусь, матушка, дацэнт Ларыса Іконнікава:

— У нас ёсць вялікая патрэба спявання царкоўнай музыкі, таму мы хочам наведаць усе фестывалі. У нашым рэпертуары таксама ёсць царкоўныя творы нашых гродзенскіх кампазітараў, напрыклад вядомага Андрэя Бандарэнкі. У Гродне ёсць шмат месцаў з выдатнай акустыкай і спецыяльна пад яе рыхтуем свой рэпертуар. І спяваем даволі часта, таксама пасля набажэнстваў і на царкоўных святах. Я стараюся падбіраць рэпертуар, які займае або зойме пачэснае месца ў традыцыі царкоўнай музыкі.

* * *

Асноўнай задачай Нацыянальнага камернага хору РБ з Мінска (другое месца ў катэгорыі прафесійных хароў) пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай з'яўляецца захаванне і адраджэнне нацыянальных традыцый і папулярызацыя твораў сучасных беларускіх кампазітараў. У яго рэпертуары больш за сямсот прац, у тым ліку творы царкоўнай музыкі XVI-XVIII ст. — Вацлава з Шамотул, ці Кіпрыяна Базіліка. Наталля Міхайлава:

— Беларусы сваю культуру маюць цесна звязаную з польскай, літоўскай і рускай культурай. Гэтыя культуры ўзаемаўзбагачальныя. І пошук чыстай у беларускім этнічным сэнсе культуры і традыцыі, напрыклад, у кантэксце музыкі з'яўляецца вельмі важным і значным. Хіба не няшмат у такім разуменні. Скарбніца беларускай музыкі вычарпаная. Беларусь незалежная нядаўна, а лік элементаў іншых культур, якія на беларускую культуру раней накладваліся, велізарны. Для кожнай эпохі трэба адкапаць гэтыя іншыя наслаенні. З пункту гледжання музыкі, наша задача заключаецца ў тым, каб паказаць, якое было песнапенне пачаўшы з шаснаццатага стагоддзя да цяперашняга часу. Гэтыя творы духоўнай музыкі захаваныя на беларускай мове, але, як правіла, гэта музыка каталіцкага касцёла. Беларуская царкоўная музыка з яе гармонікай уліваецца ў паток праваслаўнай музыкі, які прыйшоў да нас асабліва ў XVII-XIX стагоддзях.

Тацццяна Грыневіч гэта не толькі харыстка Нацыянальнага камернага хору РБ, але і мінская дзячка беларушчыны ў многіх галінах. З нагоды фестывальных выступленняў успамінала «Ніве» аб нядаўна выдадзеным, галоўным чынам дзякуючы не намаганням, кампакт-дыску з творамі, чытанымі паэтамі Беларусі:

— Чатыры гады я збірала запісы ў якасці дапаможніка для школ. Спачатку сучасных паэтаў бралі мы ў студыю і там яны чыталі свае творы. Так было з Генадзем Бураўкіным. Праз паўгода пасля запісу яго ў нас не стала. І тады мне прыйшла ў галаву гэтая ідэя, таму што ў мяне былі ўжо запісаны галасы Барадуліна, Караткевіча, а тым часам мы знайшлі Янішчыц, Мацяш і нават Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка і многіх іншых. У рэшце рэшт высветлілася, што ў нас ёсць 18 галасоў пісьменнікаў, якія ўжо знаходзяцца ў Бога і 42 жывых. На дадзены момант я была ў стане прадставіць кампакт-дыск нью-йоркскай беларускай дыяспары, у Вільні ў Таварыстве беларускай культуры і на Радыё Рацыя і Радыё Свабода.

Наступны праект, які рыхтуецца Тацццяной Грыневіч, гэта вучэбны запіс на відэа традыцыйных беларускіх танцаў з адпаведнай ім музычнай сцежкай.

Ацэньваючы ў размове з намі ўзровень беларускіх хароў, якія былі прадстаўлены ў ходзе сёлетняга фестывалю, старшыня журы, выдатны кампазітар праф. Рамуальд Твардоўскі сказаў:

— Беларускія хары маюць велізарную традыцыю ў выкананні царкоўнай музыкі і харавой музыкі ў цэлым, у якой вялікі ўклад мае праф. Віктар Роўда, у якога я калісьці быў пявучым. У 1950 годзе ён быў дырэктарам хору ў музычнай школе ў Вільні, якой я быў вучнем. Высокі ўзровень беларускіх хароў гэта заслуга ягоных вучняў. Нават горшыя хары ў Беларусі перавышаюць мінімальны ўзровень — яны заўсёды над ім. І гэта незалежна ад таго, ці з'яўляюцца парафіяльнымі харамі, моладзевымі ці прафесійнымі. Напрыклад, мой твор «Божа, во Імя Твое» ў выкананні Нацыянальнага камернага хору РБ гэта было самае лепшае выступленне, якое я калі-небудзь чуў.

* * *

Два хары падчас сёлетняга фестывалю яшчэ да яго пачатку прыцягвалі вялікую цікавасць. У асноўным па прычыне краін, у якіх яны працуюць. Першы гэта пераможца першага месца на фестывалі два гады таму — хор Аўстралійска-Новазеландскай епархіі з Сіднея. Спяваюць у ім нашчадкі імігрантаў. Харавыя традыцыі гэтай епархіі сягаюць да 50-х гадоў дваццатага стагоддзя, перыяду праваслаўнай эміграцыі, асабліва з Заходняй Еўропы і Кітая, дзе ў такіх гарадах як Шанхай царкоўная харыстыка была на высокім узроўні. Жонка дырыжора хору Андрэя Лапцева — Анастасія — родам з Францыі:

— У нас у Сіднеі ёсць праваслаўная дыяспара, якая ўключае ў сябе людзей розных нацыянальнасцей. Яны не заўсёды гавораць на ўсходнеславянскіх мовах, так як адзін хлопец з нашага хору, які напалову серб, напалову англічанін, і ён не гаворыць па-руску. Маем у дыяспары многіх грэкаў і сербаў, больш чым расіян. Я прыехала ў Аўстралію за Андрэем (Лапцевым — М. Х.), які мае расійскае паходжанне, але нарадзіўся ў Аўстраліі. Большасць у хоры складаюць праваслаўныя, якія ў царкву прыходзяць з дзяцінства. Большасць аўтараў, якіх музыку мы спяваем, гэта расіяне, у тым ліку творы кампазітараў у выгнанні, як Пятра Распопава, які бег з Расіі праз Кітай і дабраўся ў Амерыку. Нам падабаецца спяваць песні Васіля Цітова, якога рэдка можна пачуць у Расіі.

Другі хор — з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, а менавіта са шматэтнічнага і шматнацыянальнага Дубая. Канчаткова ён атрымаў узнагароду (катэгорыя: парафіяльныя хары). Праваслаўны хор сабора св. Фамы быў заснаваны ў 1990 годзе. Належыць да яго каля пяцідзесяці спевакоў, якія родам са штата Керала ў Індыі. Сабор св. Фамы ў Дубаі з'яўляецца адным з найбуйнейшых храмаў Праваслаўнай царквы ў Індыі, гісторыя якога сягае 52 г. н. э., і быў заснаваны апосталам Фамой. Хор прымае ўдзел у штотыднёвых набажэнствах, якія вядуцца на малаяламскай і сірыйскай мовах. Таксама на гэтых мовах ён прадставіў песні ў рамках конкурсных слуханняў, але таксама і на арамейскай мове. Хор стаў лаўрэатам фестывалю ў 2002 годзе. Гэтыя два хары ўспрымаліся публікай асабліва цёпла. Вельмі сардэчная атмасфера суправаджала ўсе фестывальныя прэзентацыі, якія па арганізацыі стаялі на самым высокім узроўні.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# За радаводам на Беласточчыну

**Бывае, што сляды па сваіх продках людзі знаходзяць у месцы свайго пражывання ды ў ваколіцах яго, а лёсы іншых — звязаныя з краінай аддаленай на больш за тысячу кіламетраў. Пераканаўся аб гэтым Дзмітрый Ждан з Каўрова (што ва Уладзімірскай вобласці Расеі). Цягам апошніх 14-ці гадоў адбываў ён падарожжы за дакументамі, якія з'яўляюцца сведчаннем і доказам прысутнасці ягоных продкаў на Падляшшы. Вынікі шматгадовых даследаванняў падляшскіх каранёў склаліся на публікацыю «У пошуках радаводу». Якраз гэтую кнігу 11 траўня Дзмітрый Ждан прэзентаваў у Музеі малой бацькаўшчыны ў Студзіводах. Мерапрыемства праходзіла ў час першага яго візіту на Беласточчыну.**



Дзмітрый Ждан — прадстаўнік трэцяга пакалення бежанцаў 1915-1922 гадоў. Першыя сур'ёзныя спробы даследаваць свае карані пачаў ён у 2002 годзе. Менавіта тады стаў збіраць дакументы, якія сведчылі аб пражыванні яго родзічаў на Беласточчыне. Ягоныя продкі жылі на тэрыторыі сённяшніх Гайнаўскага і Бельскага паветаў:

— Калі гаварыць аб маіх продках менавіта з Падляшша, дык мае карані звязаныя з трыма сем'ямі: Савіцкімі, Карпінскімі і Жданамі. Вытокі іхняй прысутнасці з'явіліся перш за ўсё ў Ласінцы. З гэтым сялом звязаная сям'я Савіцкіх. Вядомай асобай з гэтага роду быў а. Алімп Савіцкі, які служыў дыяканам ласінскай царквы. Быў ён прызначаны на гэтую функцыю ўказам Літоўскай духоўнай кансісторыі ад 1847 года. Савіцкія жылі ў Ласінцы да выезду ў бежанства ў 1915 годзе. Іншым месцам, з якім звязаны мой падляшскі радавод, з'яўляюцца Кленікі. Там пражывала сям'я Карпінскіх. Невядомыя мне дакладныя звесткі аб тым, з якога часу пражываў там гэты род, але ў люстрацыйных запісах айцец сям'і Карпінскіх, Серафім, згадваецца яшчэ ў 50-гадах XIX стагоддзя. Трэцяй мясцовасцю, у якой я знайшоў найбольш слядоў па маіх сваяках, з'яўляецца Трасцянка. Там пражывалі якраз Жданы. Была гэта сям'я вядомая сваёй педагагічнай дзейнасцю. Адным з вядомых настаўнікаў быў Нікіфар Ждан. Ён завяршыў у Трасцянцы педагагічную семінарыю імя Кірылы і Мяфодзія, затым стаў на працу ў трасцяніцкую школу. Ажаніўся ён з Надзеяй Савіцкай. Акрамя гэтых трох мясцовасцей, прысутнасць маіх сваякоў зафіксавана была ў такіх месцах як Парцава, Новае Беразова, Гайнаўка, Кляшчэлі ды Браньск. Вядома, што яны там пражывалі і працавалі.



На сустрэчы, прысвечанай кнізе «У пошуках радаводу» аўтарства расейскага даследчыка Дзмітрыя Ждана, удзельнічаў ягоны сваяк з Гданьска Аляксандр Багдановіч, ураджэнец Бельска-Падляшскага. Ягоная сувязь з Дзмітрыем праходзіць па лініі іхніх прабабуль. Аляксандр з'яўляецца ўнукам настаяцеля парафіі ў Ласінцы, айца Мікалая Багдановіча. Маці святара, Марыя Карпінская, была роднай сястрой Елізаветы Карпінскай — жонкі згаданага раней дыякана ласінскай царквы Алімпа Савіцкага. Айцец Аляксандра Багдановіча, Сяргей, жыў у Ласінцы ў гады Другой сусветнай вайны.

— Мой бацька разам з цэлай сем'ёй жыў там да 1944 года. Як чалавек са званнем інжынера (перад вайной паспеў стаць выпускніком Варшаўскага політэхнічнага інстытута) стаў тады на працу ў белгімназіі ў Бельску-Падляшскім, дзе я нарадзіўся. Вучыў ён матэматыцы, фізіцы ды хіміі. У 1946 годзе наша сям'я пераехала ў Гданьск, дзе бацька — эксперт па будаўніцтве — прымаў удзел у пасляваеннай адбудове горада.

Сустрэча з Дзмітрыем Жданам прайшла ў рамках дзеяння Майстэрні гісторыі і культуры, якая функцыянуе пры Музеі малой бацькаўшчыны ў Студзіводах. Прэзентаваная ў час мерапрыемства кніга «У пошуках радаводу» не з'яўляецца першым выданнем, у якім публікаваліся даследаванні Дзмітрыя Ждана. Матэрыялы на тэму падляшскіх каранёў аўтара дагэтуль змяшчаліся таксама ў краязнаўча-культурным зборніку «Бельскі гостінэць»:

— Чытачы нашага часопіса маглі ўжо пазнаёміцца з фрагментамі кніжкі Дзмітрыя. Я выйшаў да яго з прапановай надрукаваць артыкулы, якія былі эфектам ягонай даследчыцкай працы. Такім чынам у «Бельскім гостінцу» можна было ўжо прачытаць пра гісторыю роду Савіцкіх з Падляшша. У апошнім нумары зборніка быў змешчаны артыкул пра Карпінскіх з Кленік, — кажа арганізатар сустрэчы і заснавальнік Музея малой бацькаўшчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік. — Несумненна, маем непаўторную нагоду, бо сустракаем чалавека, які хаця жыве ў Расеі, радаводам вельмі глыбока стаіць на Падляшшы. Варта падкрэсліць, што ў гэтай жа самай сям'і Карпінскіх свае карані маюць такія выдатныя постаці беларускай культуры як мастакі-іканапісцы Аляксандр Лось ды ягоная сястра Наталля Доўнар. Іканастасы іх аўтарства можна знайсці прыкладна ў цэрквах Успення Божай Маці ў Чыжах і Бельску-Падляшскім ды ў царкве Святога Духа ў Беластоку.

Падчас пісання расейскамоўнай публікацыі Дзмітрыю Ждану прыйшлося наведаць архівы ў краінах Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Там пашанцавала яму знайсці дакументы, якія пазней спатрэбіліся пры пісанні гісторыі ягоных продкаў.

— Дзеля збору адпаведных матэрыялаў я наведаў Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў у Вільні. Там знайшоў я дакументы, якія тычыліся Савіцкіх з Ласінкі, але таксама часткі сям'і Жданаў, пражываючай якраз у Вілейцы, што ў Менскай вобласці. Звесткі пра Жданаў з Беларусі я знайшоў яшчэ ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гародні. У Дзяржаўным гістарычным архіве ў Львове знайшоў я прыхадскія дакументы, якія адносяцца да ўніяцкага перыяду ў ваколіцах, дзе жылі мае продкі. Да гэтага ж часу адносяцца таксама і спісы, якія я знайшоў у Гародні і ў архівах Санкт-Пецярбурга.

Пішучы «У пошуках радаводу» Дзмітрый Ждан карыстаўся таксама падляшскімі крыніцамі. Істотную ролю адыграў цяперашні настаяцель прыхода св. апостала Якуба ў Ласінцы айцец Юрый Кос. Гэтаксама важнай аказалася дапамога памерлага сёлета беларускага гісторыка і краязнаўца айца Рыгора Сасны і матушкі Антаніны Троц-Сасны. Такім чынам атрымаў ён звесткі аб прысутнасці сям'і Савіцкіх у Ласінцы:

— Калі мы пачалі пісаць кнігу, прысвечаную парафіі ў Ласінцы, з намі скантактаваўся настаяцель тамашняга прыхода айцец Юрый Кос. Сказаў ён, што захаваліся там метрыкі з перыяду, калі парафія ў Ласінцы была ўніяцкай, — кажа матушка Антаніна Троц-Сасна. — У перыяд пераходу ў праваслаўе ў XIX стагоддзі святары абавязаны былі перадаць усе ўніяцкія дакументы кансісторыі. Аднак тагачасны настаяцель вырашыў схаваць іх у званіцы. Дзякуючы таму, што дакументы захаваліся, цераз цяперашняга святара Ласінскага прыхода а. Коса метрыкі дайшлі і да нас. Неўзабаве мы пачалі расчытваць дакументы, складзеныя на старапольскай мове. Тады я натрапіла на фрагменты датычныя сям'і Савіцкіх. Не ведаю якім чынам, але неўзабаве аб гэтай вынаходцы даведаўся якраз Дзмітрый Ждан. Ён нам патэлефанаваў, мы завязалі кантакт, што і давяло да таго, што Дзмітрый скантактаваўся з цяперашнім настаяцелем ласінскай царквы.

— Штуршком да стварэння гэтай публікацыі была патрэба перадаць патомкам веды аб іхніх продках, каб і яны былі ў змозе адказаць на пытанне: які мой радавод? — лічыць Дзмітрый Ждан. — Гэтаксама важнае, каб з кнігай «У пошуках радаводу» пазнаёміліся чарговыя пакаленні родаў Савіцкіх, Карпінскіх і Жданаў, якія сёння жывуць у Польшчы, Беларусі і Расеі.

Па словах Дзмітрыя Ждана, у кожнага чалавека ёсць свой радавод. Кожны ў нейкім перыядзе свайго жыцця пачынае прыглядацца сваім караням, частка людзей вырашае нават весці шырэйшыя даследаванні ў гэтай галіне. Чым раней нехта пачне гэтым займацца, тым лепш.

Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА

## Мовазнаўчы трактат

Ззяе быццам зорка на небасхіле. Надзвычай стыльная, элегантная, крыху ў стылі сталічнай бізнесвумен, прытым красамоўная. З кішэні вылазіць акадэмічны аванс і сто працэнтаў самаўпэўненасці. Не важнае хто ты, што маеш у галаве. Адзінае, чаго ад цябе патрабуе, гэта стапрацэнтная паслухмянасць і нізкія паклоны.

Па-майстэрску жангліруе найбольш вытанчанымі фразамі, уводзячы патэнцыяльнага слухача ў татальнае аслупяненне.

Праз пасрэдніцтва моўных сімвалаў-транзітараў вызваляе свае думкі і ідэі ва ўсе прасторы невялікай універсітэцкай залы.

* * *

Гісторыя доўгая — як чалавечае існаванне на гэтай зямлі. Усё пачалося з пазаслоўнай сферы знакаў і сігналаў, каб праз гаворку, пісанне і друк перайсці ў тэлекамунікацыю і інфарматызацыю. Мова спалучае адзінкі, стварае і фармуе супольнасць. Мова дае магчымасць існавання ў культуры, змяшчае ў сабе культуру, а нават выходзіць па-за яе межы. Мова гэта мяшок са спадчынай, з якога можна ўзяць усё, што ў дадзеную хвіліну нам неабходнае. Хіба што мяшок гэты парожні.

Сучасныя мовазнаўцы сцвярджаюць, што ў глыбіні людской натуры ляжыць прага ўваскрэсення ідэалаў, карацей кажучы, прага добра нам вядомай рэкламы. Прастора той жа рэкламы праз пасрэдніцтва персвазійнай функцыі стварае нацыянальную функцыю мовы.

Нараджэнню нацыянальнай функцыі мовы можа перашкодзіць, між іншым, моўнае табу:

— Назавіце, калі ласка, нашы першыя друкарні, — звяртаецца да збянтэжаных слухачоў незвычайная элегантка.

— Заблудаў, Супрасль... — далятае з найбольш адлеглага і глухога кутка залы.

— Ах, вы пра крэсы гаворыце. Праўда, Крулявец і Брэст былі даволі важнымі друкарскімі цэнтрамі, але я маю на ўвазе бліжэйшыя нам кракаўскія друкарні.

— Але ж нам бліжэй у Вільню, чым у той жа Кракаў, — супраціўляецца той жа глухі голас.

Пас.

* * *

Адметнасцю мовы з'яўляецца безупынны працяг яе развіцця. Так у мінулым, сённяшнім, як і ў будучым вымярэнні. Энергіяй, якая ўплывае на ўзнікненне і далейшае існаванне мовы і яе гісторыі, з'яўляецца пераказ паняццяў і ўяўленняў. Магчымы ён толькі ва ўмовах інтэракцый індывідуальных псіхічных арганізацый, якія адбываюцца пры дапамозе сродкаў вонкавага свету. Так прынамсі думаў блізкі майму сэрцу прафесар Ян Бадуэн дэ Куртэнэ. Указваў ён толькі на дзве дарогі пераказу мовы:

— вусная традыцыя

— пісьма і помнікаў.

А што рабіць, калі першую дарогу з'ела ўжо моўнае табу. Ці каб засвоіць родную мову дастаткова карыстацца пісьмовымі помнікамі? Баюся, што атрымаецца з таго толькі нейкая ненатуральная і нікому незразумелая старажытная мова. Здаецца, і ў гэты раз мушу аддаць павагу вялікаму вучонаму.

Кожны, прынамсі тэарэтычна, у змозе адрозніць сваю мову ад мовы іншых людзей. Мова адрознівае таксама чалавека ад іншых жывых стварэнняў. Ёсць выпадкі, калі прыходзіцца засвойваць і па некалькі моў адначасова. Не цяжка здагадацца, што выбар і колькасць вывучаных моў залежыць не так ад уласнай матывацыі, як ад настаўніцкага кіраўніцтва. Значыць, чалавек дарогай спадчыннасці набывае толькі патэнцыяльную здольнасць і магчымасць засвойвання мовы. У якім напрамку пойдзе гэтае засвойванне залежыць толькі ад сацыяльных умоў набываючага.

* * *

Пад сталом скрываюцца зусім незаметныя здалёк ногі вялікай элеганткі абутыя ў... О, нябёсы!

Што завецца майстрыха першага, моцнага, але кароткага ўражання.

Іаанна ЧАБАН



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Чаму вучыць „Беларуская песня"?

Спеў закранае чалавека ў любым узросце. Ён дае энергію, якая з'яўляецца рухаючай сілай развіцця. У час конкурсаў „Беларуская песня" моладзь і дзеці маюць магчымасць паказаць свае вакальныя здольнасці, пашырыць рэпертуар, набраць вопыту на сцэне, пазбавіцца страху перад аўдыторыяй і прыемна правесці час. Конкурс „Беларуская песня" даказвае, што сярод нас шмат таленавітых дашкольнікаў, якія праз спеў глыбей спазнаюць сваю культуру і мову.

Прычын для радаснага музіцыравання шмат. Напрыклад, 60-гадовы юбілей Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое з'яўляецца арганізатарам конкурсу „Беларуская песня". Ніводная гадавіна ці гэта дзень нараджэння, ці юбілей, не можа абысціся без супольнага спявання. 43-ці выпуск конкурсу, які прайшоў сёлета, даў таму магчымасць. Хаця „Беларуская песня" гэта конкурс, у якім спевакі змагаюцца за самае лепшае месца, усё ж такі мае ён характар сімпатычнай, радаснай гульні. Як падкрэсліваюць настаўніцы і кіраўнікі школьных музычных гурткоў, дашкольнікі не разлічваюць на ўзнагароды, ім проста прыемна запрэзентавацца на сцэне перад шырокай аўдыторыяй. Астатняя складаецца не толькі з аднагодкаў і сяброў з іншых школ, але таксама з бацькоў, дзядуль і бабуль, якія адмыслова прыходзяць, каб пабачыць свае „зорачкі". Усе яны адначасова прыпамінаюць сабе любімыя песні з дзіцячых гадоў, якія маюць магчымасць паціхеньку заспяваць за выступоўцамі.



Казка з Гарадка

У час конкурсу ў зале было ціха і сур'ёзна. Толькі пасля таго, як заканчваўся выступ, гледачы ўзнагароджвалі вакаліста гучнымі апладысментамі, а затым зноў наступала маўчанне. Удзельнікі конкурсу былі вельмі добра падрыхтаваны і прыгожа спявалі свае песні. Настаўнікі і бацькі ганарыліся сваімі дзецьмі. Можна было пачуць шэпт бацькоў, якія казалі: „Зараз спявае мая дачка, а цяпер мой сын". Кожны выступ даваў гледачам шмат задавальнення.

Перш за ўсё гэты папулярны конкурс з'яўляецца натхненнем для далейшага, глыбейшага вывучэння беларускай мовы. Прыгожыя і нескладаныя тэксты ў спалучэнні з музыкай лёгка трапляюць у вуха і адначасова вучаць правільнай беларускай мове. Праз спеў пашыраем сваю лексіку і без асаблівага высілку мы лепш спазнаем родную мову.





**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

*Міра ЛУКША*

## Аліўка

*Пакут ціхі сведка*
*і радасці свабоднай,*
*расце на палетках*
*у аліву плодная.*
*Спяваў Давід псалом:*
*і там — аліўка зялёная*
*прыйшла ў Божы дом,*
*спадзявання поўная*
*на міласэрнасць Божую.*
*Вечназялёная,*
*непрыкметна прыгожая,*
*твая галінка тонкая*
*— сімвал міру —*
*голуб нясе белы*
*над светам у агні,*
*каб не было вайны.*
*Ісус стаяў на каленях*
*між аліўных дрэў*
*і пад іх ціхі спеў*
*маліўся,*
*каб мець сілу*
*выканаць наканаванае*
*Яму па Пісанні.*
*Для красы ты і для яды,*
*для лячэння-цярпення.*
*Упадзем і мы на калені.*
*Прытулім дрэва цярплівае,*
*добрае, родна-аліўнае.*

## УВАГА КОНКУРС!

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 12 чэрвеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## № 23-16

**Многа нас сясцёр, расце —**
**Аж чырвона на кусце.**
**Лекі я. Ласунак я**
**і ў варэнні смаката.**
**На агні паклекачу —**
**Ад прастуды палячу.**
**М.....**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 19-16: ліса.**

**Узнагароды, наклейкі з разнавіднымі матывамі, выйгралі Кароль Гелда, Моніка Суровец з Бабік, Бартэк Чэмярыс з Нарвы, Сара Скаўронская з Беластока. Віншуем!**

# Сняжынка

Жылі-былі дзед і баба. Добра жылі, усё ў іх было — і кароўка, і авечка, і коцік на печцы.

Толькі дзяцей у іх не было. Сумна ім без дзяцей дажываць на старасць.

Аднойчы зімой упаў снег. Дзеці ўцешыліся. Выйшлі на вуліцу і сталі ляпіць снегавіка. Паглядзеў дзед у акно і кажа бабцы:

— Што ты жонка сядзіш? Давай, пойдзем і снежную бабу злепім.

— Пайшлі! Толькі не снежную бабу будзем ляпіць, а дзяўчынку Сняжынку.

Пайшлі дзед з бабай на вуліцу. Зляпілі дзяўчынку і цешацца. Такая прыгожая, такая слаўная. Сняжынка ўсміхнулася. Яна падышла да іх і нізка пакланілася. Дзед і баба не вераць сваім вачам.

— Дзед! — кажа бабка. — Глядзі, якая ў нас дачушка!

— Хадзі з намі дахаты! — кажа дзед.

Сняжынка пайшла разам жыць. З кожным днём яна была прыгажэйшай. Усе глядзелі на яе белы твар, блакітныя вочы, светлыя валасы і захапляліся.

Пасля прыйшла вясна. Прыляцелі птушкі, расцвілі кветкі. Усе дзяўчаты на лавачку выходзяць, песні спяваюць. А Сняжынка ў хаце сядзіць. Усё ў акно глядзіць, сумуе і плача...

Завітала ўжо лета. Уся моладзь цешыцца, гуляе. Адна Сняжынка сядзіць дома, ад сонца хаваецца. Дзед і баба пытаюць:

— Ці ты не хворая?

— Здаровая, — кажа Сняжынка, — толькі па зіме сумую.

Аднойчы пайшлі дзяўчаты ў лес па чарніцы. Паклікалі яны Сняжынку. Доўга хадзілі па лесе, многа чарніц назбіралі. Пасля рашылі пагуляць. Распалілі вогнішча, сталі вадзіць карагоды. А пасля праз агонь скакаць. Падышла Сняжынка да вогнішча, аднак скакаць пабаялася.

Дзяўчаты загаласілі:

— Не бойся, Сняжынка! Не бойся!

Сняжынка пачала скакаць. Узнялася над вогнішчам пара. І растала, расплылася снежная прыгажуня. Адна хмарка пасля яе асталася.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



Дзяўчаткі з Арэшкава



**Карнэлія БАРЭЧКА**
**Гімназія ў Нараўцы**

## Пацукі

Кожны крычыць,
калі пацука пабачыць.
Усе баяцца яго,
дрэнныя думкі
прыходзяць у галаву.
Я іх не баюся.
У хаце маю іх ажно тры.
Маюць імёны.
Яны разумныя і прыгожыя.
Любяць кукурузныя шматкі,
заўсёды імі ласуюцца.
Не разумею,
як можна іх баяцца.
Звычайная жывёла.
Як кот, як сабака, як хамяк,
ці нават як конь.
Мае пацучкі:
Клео, Рыкі і Эмма!

**Габрыеля ГРЫКА**
**Азяблы, ПШ у Міхалове**

## Вясна

Калі колер зялёны прыносіць,
Калі птушак прыводзіць,
На людзей мары наводзіць,
Усіх суцяшае,
Тады я найбольш люблю,
Маю родную зямлю!

**Алівія КУЗЬМА**
**Гімназія ў Нараўцы**

## Мая сям'я

Я тут толькі напішу,
што я думаю,
аб бабулі, аб дзядулю,
аб матулі і бацьку,
аб маім малодшым брацiку.
Што будзе,
калі я пастарэю?
Дзе будуць:
мой брат,
мама, тата?
Ці буду думаць:
аб маёй бабулі,
аб маім дзядулю?
Якія ўспаміны застануцца?

## Вершы Віктара Шведа



### Адкуль руіны?

Тата з сынком Янкам
Вольнымі хвілінамі
З гарадскога замка
Знаёмяцца руінамі.

І думка нарадзілася
Цікаўнаму заўсёды:
— Мо мама тут вучылася
Ездзіць самаходам?

### Ці ты лётаў самалётам?

Ці ты, дзедка, лётаў
У жыцці самалётам?
— Лётаў я першы раз,
Гэта мой адказ.

— А ты, дзедка, страх
Меў тады ў вачах?
— Меў страх, не дзівота,
Таму больш не лётаў.

## № 23-16 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 19:**
Міф, коска, кут, позірк, сто, талон, анод, мак, руль, ом, дырэктар. Муж, котка, доза, код, сіла, мы, крона, акно, рэ, друк, ікс, футболка, то.

Узнагароды, жэлевыя аўтаручкі, выйгралі **Мартына Ігнатовіч, Мартына Барэвіч** з Бабік, **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Мартына Лукша, Ніна Марціновіч** з Нараўкі, **Юля Скляжэўская, Міхал Тапалянскі, Тымэк Петручук** з Нарвы, **Катажына Харкевіч, Малгажата Садоўская** з Міхалова. Віншуем!



# ЯЎГЕН КАРНЯГ у Беластоку

**У рамках сёлетніх Дзён сучаснага мастацтва ў Беластоку на малой сцэне Беластоцкага тэатра лялек (БТЛ) прадстаўлены быў спектакль незалежнага мінскага Korniag Theatre «The Latent Man» (latent — з англійскай: латэнтны, схаваны). Стваральнік і дырэктар гэтага тэатра Яўген Карняг — адзін з самых таленавітых і незалежных беларускіх рэжысёраў маладога пакалення — вёў таксама акцёрскія майстар-класы з маладымі людзьмі ў Адкрытай мастацкай прасторы «Артэа».**

Амаль гадзіннае прадстаўленне Яўгена Карняга гэта аповесць — як гэта было прызнана крытыкамі — «пра балючыя з'явы сучаснага свету — фобіі датычныя біялагічнага і культурнага гендару, пра сексуальныя засмучэнні, крызіс маскулінізму і традыцыйны вобраз сапраўднага мужчыны». Гэта «забароненыя тэмы, удары накіраваныя на «ўцякаючую ад рэальнасці» эстэтыку, якая дамінуе ў беларускім рэпертуарным тэатры. Паводзіны герояў п'есы адрозніваюцца ад стандартных сацыяльных паводзін. Жанчыны і мужчыны — у архетыпічным сэнсе. Фізіялогія голага цела паказвае мужчыну адключанага ад цывілізацыі, сапраўднага. Жанчыны гіператкыўныя. Іх паводзіны і знешні выгляд наглядна даказваюць, што добра ўгрунтаваныя ў грамадскім і культурным плане нормы хутчэй паталагічныя. Яны сілкуюцца вульгарнасцю, агрэсіяй і гвалтам. З іншага боку, мужчыны інфантыльныя і зусім пасіўныя. Іх цялеснасць і ментальнасць не ўпісваюцца ў «сапраўднага мужчыну» — моцнага і агрэсіўнага мача. Сацыяльная няспеласць і бездапаможнасць герояў рэжысёр не толькі робіць бачнымі, але прыводзіць да абсурду».


Першая справа Іаанна Троц

**Яўген Карняг** — выпускнік акцёрскага лялечнага факультэта. Заснаваў ён свой уласны тэатр (без пастаяннага памяшкання і не карыстаючыся дзяржаўнымі субсідыямі) у Мінску ў 2010 годзе. Калі некалькі гадоў таму быў стыпендыятам праграмы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны «Gaude Polonia», наладзіў шмат сяброўстваў з польскімі мастакамі тэатра і часта супрацоўнічае з тэатрамі ў Польшчы, у тым ліку падрыхтоўваючы харэаграфію для спектакляў у Польскім тэатры ў Познані або Тэатры «Харэя» ў Лодзі. З нагоды аднаго з яго спектакляў, паказанага ў нашай краіне — «Інтэрв'ю з ведзьмамі», сказаў:

— Я хацеў бы разгледзець, хто такі беларус, ці існуе такая нацыя. Беларусі ўжо даўно няма ў СССР, але ў мяне склалася ўражанне, што мы ўсё яшчэ там. Я маю ахвоту шмат аб гэтым гаварыць. У Польшчы я бачыў шмат спектакляў, у якіх палякі вельмі цяжка сябе ацэньваюць, напрыклад, крычаць са сцэны, што сорамна быць палякам, таму што ўсе палякі з'язджаюць. Я жадаю, каб у нас можна было зрабіць нешта накшталт гэтага: вельмі крытычна аналізаваць сябе.

Пасля іншай пастаноўкі — «Спектакль № 7», прадстаўленай амаль тры гады таму ў варшаўскім Польскім тэатры, ён сказаў:

— Сутнасць у тым, што сучасны беларус дагэтуль не паставіў перад сабою асноўнага пытання: што гэта значыць быць беларусам? Ці я з'яўляюся ім? Сёння, калі ў Алімпійскіх гульнях не ўдзельнічаюць беларускія спартсмены, мы падтрымліваем расіян. Мы ўсё яшчэ нацыя, якая не гаворыць на сваёй роднай мове. Па сутнасці мы не ведаем да канца, хто мы.

Яго тэатр складаюць маладыя беларускія мастакі і акцёры, якія ўдзельнічаюць на пастаяннай аснове ў іншых тэатрах, у тым ліку ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, аб якім мы шмат пісалі ў «Ніве». Korniag Theatre выступае ў Беларусі рэдка і бясплатна, таму што як неафіцыйны тэатр, калі б хацеў паказваць прадстаўленні па квітках і рэкламавацца ў публічных месцах, мусіў бы падаць заяўку ў Міністэрства культуры на спецыяльны дазвол — «гастрольное удостоверение». Трэба было б за яго плаціць і прайсці цэнзарскую канцылярскую працэдуру. Месца для рэпетыцый рэжысёр мае дзякуючы таму, што ён выкладае ў мінскай тэатральнай школе, і менавіта там яны часта праводзяцца. У прадстаўленні, паказаным у Беластоку, так як і ў іншых спектаклях яго аўтарства, эксперыментальна выкарыстоўваюцца святло, гук і рух. У падляшскай сталіцы, дзе з тэатрам гасцяваў упершыню, пасля амаль гадзіннага відовішча — падчас сустрэчы з аўдыторыяй — расказваў:

— Першыя два спектаклі паставіў я ўжо ў школе на чацвёртым курсе. Ужо тады я зразумеў, што не буду акцёрам-лялечнікам. Я паставіў іх у якасці маіх дыпломных прадстаўленняў.

Што тычыцца стану мастацкага інстытуцыянальнага тэатра ў Беларусі, выказаў меркаванне:

— Ён застаўся на гэтым этапе, якім быў трыццаць гадоў таму. Практычна ў Беларусі няма драматычнага тэатра ў сучасным выданні, і толькі часам такім бывае лялечны тэатр. Я нават не магу знайсці слоў для таго, што паказваецца ў беларускім драматычным тэатры.

Што тычыцца самога спектакля, які ўзнікаў два гады, ён сказаў:

— Тэма, якую я падымаю ў «Латэнтным чалавеку», вельмі папулярная. З'ява метрасексуалізму не нарадзілася ў Беларусі, гэта з'ява звышбеларуская. Першай крыніцай натхнення для гэтага выступу былі пісуары, размешчаныя на ўзроўні вачэй, якія я калісьці ўбачыў. Іх від доўга сядзеў у маёй галаве. Потым я глядзеў інтэрнэт і дурныя запісы ў чаце вельмі маладых дзяўчат. І ў канчатковым выніку крыніцай натхнення быў адзін з запісаў, які прынёс мне адзін са студэнтаў: «Я ніколі не буду сустракацца з мужчынам, у якога абутак не падыходзіць да пояса ў яго штанах». Я спытаў сябе: а якога мужчыну яна прагне? Натхненнем для гэтага праекта было таксама маё супрацоўніцтва з лодзінскім тэатрам «Харэя» ў 2012 годзе.

За два дні да паказу спектакля ў БЛТ — пасля больш чым трохгадзіннага семінара, які ён вёў — удзельніца заняткаў Іаанна Троц, заснавальніца тэатра «Чрэво» (ставіць спектаклі на беларускіх гаворках Беласточчыны) прызналася «Ніве» з непрыхаваным задавальненнем:

— Яўген ставіў перад намі вельмі простыя акцёрскія задачы. У той жа час кожная з гэтых задач была настолькі прасторнай і натхняльнай, што можа было б аднаму з практыкаванняў аддаць некалькі дзён працы і ад гэтага натхнення ствараць спектакль.

Яшчэ адзін з удзельнікаў заўважыў:

— Мы працавалі над засяроджаннем увагі на сцэне. Практыкаванні маюць амаль містычны характар.

Сцэнічнае афармленне для паказванага ў Беластоку спектакля падрыхтавала Таццяна Нерсісян, музыку — Мікіта Залатар і Яўген Карняг, а прадзюсарам з'яўляецца Марына Дашук. У прэзентацыі быў выкарыстаны, у прыватнасці, спецыяльна для гэтага спектакля знакаміта перакладзены з рускай мовы верш Мікалая Гумілёва «Партрэт мужчыны» паэтэсай і нашай рэдакцыйнай калегай Мірай Лукшай.

Калі мы трапілі ў БЛТ на падрыхтоўкі да спектакля, якраз апошнія «папраўкі» на элементах сцэнаграфіі, складзенай з трох высокіх падвесных мужчынскіх пісуараў і са сцяны з белай керамічнай пліткі, рабілі выдатныя мастакі маладога пакалення — з Беларусі Сяргей Шабохін і з Украіны Даніла Галкін, а таксама куратар выстаў у Мінску Павел Праабражэнскі. На плітках размалёвалі яны часта бачныя ў грамадскіх туалетах малюнкі і надпісы, найчасцей праявы любоўных пачуццяў маладых, неабавязкова накіраваныя асабіста да іншага чалавека.

Сярод акцёраў, задзейнічаных у спектаклі, можна было любавацца Святланай Анікей, вядомай у Беластоку з выдатнай галоўнай ролі Сонькі ў Драмтэатры імя Аляксандра Вянгеркі. Разам з ёю на сцэне ззялі іншыя надзвычай здольныя акцёры маладога пакалення: Гражына Быкава, Юлія Вяхроўская, Ігар Шугалееў, Іван Стральцоў, Андрэй Новік, Павел Церахаў, Мікіта Бандарэнка. Вядучы размову пасля спектакля, ураджэнец Беластока, тэатразнавец Конрад Шчэбёт, у цяперашні час таксама дырэктар аддзела нацыянальных устаноў культуры Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны, пытаўся ў акцёраў аб тым, як складваецца супрацоўніцтва з аўтарам відовішча. Адзін з акцёраў Іван Стральцоў сказаў:

— Калі Жэня з'явіўся яшчэ ў нашай тэатральнай школе, ён пачаў вучыць нас тэатру іншаму, чым той, якому вучылі нас. Адкрываў нам свет тэатра. Мы не вучыліся з ім тэатру паводле класічнага метаду Станіслаўскага. Усё было жывым і арганічным. Ён спрабаваў нас, акцёраў, вызваліць ад тармазоў. Мы адчувалі сябе пышна. Дазваляў так, як у працы над гэтым праектам, на самарэалізацыю.

Святлана Анікей, якая іграла галоўную ролю ў шматлікіх пастаноўках Яўгена Карняга, дадала:

— Жэня з кожным годам у маіх вачах становіцца ўсё больш цікавым рэжысёрам. Ідучы на яго рэпетыцыі, акцёр не мусіць нерваваацца, думаць у сябе дома пра тое, як пабудаваць сваю ролю. Прыходзячы на рэпетыцыю, ён робіць з акцёрам усё неабходнае для таго, каб зайграць. Ставіць перад акцёрам вельмі дакладную задачу. Кожнае яго слова-заўвага вельмі трапнае.

Яўген Карняг у бліжэйшыя месяцы плануе паставіць у Беластоку спектакль з рэдавітай беластачанкай, вядомай у Польшчы рэжысёркай Агатай Бізюк. Які? На дадзены момант гэта сакрэт. Вядома, што, хутчэй за ўсё, гэта адбудзецца з падтрымкай Падляшскай оперы і філармоніі



Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

(працяг, пачатак у папярэднім нумары)

# Было — не мінула (2)

**Прафесар Эдмунд Дмітруў** адзначыў, беручы пад увагу прыведзеныя раней факты, што асяроддзі, заангажаваныя ў пабудову помніка вазакам, мелі асновы абскардзіць прымяненне двайной меркі ў падыходзе да ўвекавечання на бельскіх ваенных могілках. У сваю чаргу Рада аховы памяці змагання і пакут, калі даведалася пра факт, не заўважыла ніякіх недахопаў і юрыдычных парушэнняў. Спрэчка была вырашана дзякуючы чарговаму рашэнню Найвышэйшага адміністрацыйнага суда, на аснове якога новы падляшскі ваявода не хацеў працягваць далей гэтай няёмкай справы. Завяршэнне помніка было адблакіравана і ён быў пасвячаны ў кастрычніку 2002 года. На галоўнай панэлі апынуўся надпіс, што ў тым месцы былі пахаваны астанкі трыццаці жыхароў былога Бельскага павета, памардаваных атрадам збройнага падполля пад камандаваннем Рамуальда Райса „Бурага". Далей фігуруюць прозвішчы трыццаці вазакоў з датамі іх нараджэння і мясцовасцямі. На левай і правай панэлях пералічаны ахвяры з паасобных вёсак. Гэты надпіс таксама аспрэчваўся. Грамадскаму камітэту ўдалося адстаяць два аспрэчваныя ўладамі элементы перaказу, менавіта апрача вазакоў на бакавых панэлях ушанавана таксама жыхароў вёсак — ахвяр пацыфікацыі, ды побач назвы атрада і прозвішча камандзіра напісана „збройнае падполле". Важнае таксама прымяненне слова „памардаваныя". Называючы асобы звонку групы вазакоў, пахаваныя на іншых могілках, сапраўды помніку быў прысвоены сімвалічны характар. Аднак не гэта, паводле мяне, было галоўнай прычынай супраціўлення з боку Галоўнай рады аховы помнікаў змагання і пакут. Справа была не ў тым, ці помнік будзе мець сімвалічны характар, толькі ў тым, якое ён нясе сведчанне — што ён будзе сімвалізаваць. Калі б надпіс быў толькі пра забойства вазакоў, лягчэй было б зрэлятывізаваць сімволіку гэтага помніка. Надпіс інфармуе таксама пра ахвяры з паасобных вёсак, што вядзе да высновы пра бязлітаснасць і лютасць у адносінах да безабаронных цывільных грамадзян — не толькі мужчын, але таксама жанчын і дзяцей. Такія факты складаней апраўдаць. У выніку сімволіка ставіла пад сумненне ідэалізаваны вобраз „выклятых жаўнераў", распаўсюджваны ў грамадстве. У параўнанні з пачатковым праектам сімволіка і так была крыху палагоджана, бо ў ранейшай версіі чатырохкратна віноўнікамі было названа збройнае падполле са зборнай эпітафіяй ахвярам забойства, здзейсненага збройным падполлем, калі ўласная назва атрада выступала толькі адзін раз. Той праект найбольш поўна выказваў намер аўтараў — помнік меў асуджаць усё збройнае падполле, якое ў вачах аўтараў бачыцца ганіцелем праваслаўных беларусаў. Крынiцай такога меркавання з'яўляецца адмоўны вопыт з польскімі партызанамі, памяць пра які ўсё жыве ў свядомасці большасці старэйшага пакалення праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны. Гэты вопыт, сфармаваны ў ваенныя і пасляваенныя гады, вырашыў пра адмоўнае бачанне ўсяго польскага падполля і глыбокага недаверу да ўсяго, што з ім звязана. Апісваючы гэтае стаўленне прафесар Яўген Мірановіч сцвердзіў: „Дзейнасць узброеных груп, часта прыбылых звонку, была б немагчымай без дапамогі мясцовага польскага насельніцтва, якое выконвала ролю інфарматараў і праваднікоў, неадназова зацікаўленых у вырашэнні сваіх спраў з дапамогай вонкавага чынніка. У ацэнцы пакрыўджаных віноўнікам быў народ, з якога выводзіліся віноўнікі бед, не беручы пад увагу таго, што большасць гэтага народа магла не падтрымліваць актаў гвалту і насілля. Злачынствы нацыянальнага падполля былі неадназова асуджаны кіраўніцтвам беластоцкай арганізацыі ВіН. З пункту гледжання беларусаў не мела гэта значэння. Запамяталі яны ўзброеных польскамоўных людзей і ўсё, што яны рабілі". І яшчэ адзін важны аспект: „Вобраз партызанкі ў свядомасці мясцовых беларусаў мае адно вымярэнне. У выказваннях беларусаў няма разрознення паміж грабежніцкімі групамі, якія выводзіліся з мясцовага насельніцтва, і падполлем, прадстаўляючым акрэсленыя палітычныя рацыі. Вынікае гэта з таго, што навакольныя грабежнікі, нападаючы на дамы праваслаўнага насельніцтва, прадстаўляліся падпольным польскім войскам. Сведкі гэтых падзей нічога не ведалі пра структуры падполля і ўсё асацыявалі з Арміяй Краёвай, якая паводле іх узнікла толькі пасля вайны не дзеля таго, каб змагацца з народнай уладай, але дзеля змагання з праваслаўным насельніцтвам".



Грамадскім вынікам канфлікту з'яўляюцца дэзінтэграцыйныя дзеянні, хаця галоўная мэта захадаў грамадскага камітэта ўшанавання ахвяр была дасягнута. Да гэтага трэба падкрэсліць, што грамадскі бок выйграў з уладнымі ўстановамі таму,



што навучыўся карыстацца тымі магчымасцямі, якія грамадзянам дае дэмакратычная сістэма. З гэтага пункту гледжання вынік спрэчкі за помнік можна назваць поспехам польскай дэмакратыі. Не прывяло гэта, аднак, да развязкі канфлікту памяці, а задавальненне з дасягнення мэты суправаджае сфрустраванасць. Цягам шматлікіх гадоў змагання нарасло ў людзях пачуццё крыўды з прычыны стаўлення да справы дзяржаўных установаў, як тэндэнцыйнага, асабліва негатыўнага стаўлення да беларускай меншасці — у агульнасці — як чарговая праява дыскрымінацыі. Закамплексаванасць ахвяры, глыбока ўкаранёная ў беларускай традыцыі, атрымала за гэтыя гады добрае падсілкаванне, асабліва ж таму, што справа помніка асацыявалася з выразнымі фактамі дзяржаўнай палітыкі памяці, як скасаванне прысудаў камуністычных судоў ці ўстанаўленне ў 2011 годзе нацыянальнага Дня выклятых жаўнераў 1 сакавіка. У рэгіёне ўзнікаюць усё новыя ўвекавечанні ўзброенага падполля. Гэтыя факты выклікаюць у часткі беларускага асяроддзя меркаванне, што польскія ўлады ўсляўляюць забойцаў. Асаблівае абурэнне выклікала апраўданне Рамуальда Райса і прызнанне ягонай сям'і кампенсацый, калі паралельна сем'і беларускіх яго ахвяр не могуць тых кампенсацый дачакацца.

Помнік стаў таксама своеасаблівым выклікам для палякаў. Частка камбатантаў і нацыяналістычныя арганізацыі палічылі яго замахам на нацыянальныя святасці і прыняла пазіцыю абаронцаў польскасці пад пагрозай. Выявіліся таксама антыбеларускія прадузятасці. З другога боку трэба заўважыць, што вынік спрэчкі дасягнуты ў рамках дэмакратычнай сістэмы быў у прынцыпе адобраны. Частка польскага грамадства выказала эмпатыю для ахвяр трагедыі і салідарнасць з камітэтам у змаганні за помнік у Бельску, крытыкавала стаўленне чыноўнікаў. Справа вазакоў шмат гаворыць пра гістарычную палітыку польскай дзяржавы. Паказвае яна, як рызыкоўным з'яўляецца парадкаванне гісторыі паводле ідэалагічных крытэрыяў. Выяўляе непаслядоўнасць і кан'юнктурнасць гістарычнай палітыкі, яе зблытанне з сучаснымі палітычнымі канфліктамі, пралівае святло на дзейнасць розных не звязаных з вывучэннем гісторыі ўстаноў, якія часта больш паспяхова за гісторыкаў вырашаюць пра такое або іншае асвятленне гістарычных фактаў.

■ Загадкавая эпітафія на могілках у Саках

Далей у ходзе сустрэчы была гаворка пра канфлікт калектыўнай памяці, пра менавіта тое біпалярнае асвятленне гістарычных фактаў. І кожны з бакоў канфлікту намагаецца бачыць толькі адзін аспект, зусім ігнаруючы не падыходзячыя да закладзенага пункту гледжання факты. Гэты канфлікт успыхае пры нагодзе „гарачых" дат, напрыклад 1 сакавіка, пазней пастаянна цепліцца і здаецца быць непагасным. Аднак лінія фронту, у прынцыпе, не праходзіць па этнічным разрэзе. Адзін з прысутных у зале, паляк па нацыянальнасці, заўважыў, што найбольш упарта супраціўляўся ўшанаванню вазакоў бельскі аддзел Сусветнага саюза жаўнераў АК, сябры якога не змаглі ўзнесціся вышэй гэтага сячэння. Прафесар Дмітруў дадаў, што гэты суб'ект вельмі актыўна супраціўляўся ўшанаванню вазакоў, а Рада некрытычна прымала за свае яго аргументы.

Варта тут яшчэ даказаць пра юрыдычную моц спрэчных рашэнняў судоў: Варшаўскай ваеннай акругі з 1995 года, які палічыў „Бурага" невіноўным, ды беластоцкага Акруговага з 2005 года, які дзеянні „Бурага" палічыў злачынствам супраць чалавецтва. Менавіта рашэнне першага было прысудам, затое другога — толькі меркаваннем.

■ Эпітафія на месцы злачынства; дата на ёй паводле юліянскага календара...

Адзін з дыскутантаў разважаў, чаму менавіта „Буры" займае пазіцыю куміра ў некаторых асяроддзях. Выказаў ён меркаванне, што ён з'яўляецца сімвалам набіраючай моды антысістэмнасці. Да гэтага прафесар Дмітруў дадаў, што г.зв. выклятыя жаўнеры выклятыя быццам удвая: тады былі выклятыя, калі ваявалі ды цяпер, калі яны разглядаюцца быццам забытыя, хаця яны адстойвалі незалежнасць Польшчы — забытыя цяпер, у перыяд ІІІ РП; у апошнім сэнсе іх міф скарыстоўваецца для атакі на сучасных палітычных канкурэнтаў. Гэты міф можна разглядаць як прадукт палітычнай прапаганды. Бо чаму ж выносіцца міф гэтай палітычнай плыні, за якой было каля тысячы жаўнераў, а прыхоўваецца тую намнога буйнейшую плынь — Вольнасць і незалежнасць? Поўная назва апошняй — Супраціўленне без вайны і дыверсіі „Вольнасць і незалежнасць". Была гэта плынь, якая, выконваючы інструкцыі Польскай падпольнай дзяржавы і эміграцыйнага ўрада, заклікала да адмовы ад узброенага змагання, аргументуючы гэта тым, што магло б яно выклікаць спантаннае антысавецкае паўстанне, якое саветы ўтапілі б у крыві, ліквідуючы рэшткі польскай самаісці і прывесці да паскоранай саветызацыі Польшчы. Чаму тады гаворыцца толькі пра той адкол незалежніцкага руху, які прытрымліваўся лозунгу „перамога або смерць"? Гэтак спрэпараваная гісторыя мае ўстанавіць меркаванне, што той, хто ў 1940-х гадах не змагаўся са зброяй у руках, той не быў добрым патрыётам. А можа і зусім патрыётам не быў, можа быў звычайным калабарантам... І вядзе гэта да чорна-белага вобразу гісторыі, дзе адна плынь паказваецца толькі ў светлых колерах і пра яе герояў нельга гаварыць адмоўна. Маладыя нарадоўцы зладзілі нядаўна сімвалічныя паховіны „Лупашкі", аднак у 1945 годзе яны верагодна стралялі б да яго, бо ў 1945 годзе ягоная АК і НВЗ „Бурага" ставіліся да сябе варожа.

У дыскусіі прагучала тэза, што выкляты жаўнер гэта ўвасабленне рамантычнага героя, які змагаецца, хаця няма ў яго шансаў перамогі. Ён прадстаўляецца ў такім жа рамантычным ракурсе, як і Варшаўскае паўстанне. Абы толькі такі падыход да Варшаўскага паўстання не ўкараніўся ў нашым народзе, заўважыў іншы прамоўца, бо Варшаўскае паўстанне прывяло да знішчэння і Варшавы, і культурнай эліты Польшчы заадно. Дадаў ён яшчэ, што выклятыя жаўнеры ідэалізуюцца не толькі антысістэмнікамі, але таксама — як не дзіўна — сістэмнікамі ды разглядаецца іх дзеянні не толькі з гуманнага пункту гледжання, але і з племяннога.

Прафесар Дмітруў звярнуў увагу, што паколькі „Буры" быў жаўнерам, напэўна ведаў ён правілы паводзін у ваенных умовах, зафіксаваныя ў міжнародных канвенцыях у пачатку ХХ стагоддзя. У сілу гэтых канвенцый жаўнеры не мелі права паліць вёсак, забіваць мірнае насельніцтва ці рабаваць, нават у варожай краіне. Хаця не ўсе бакі трымаліся гэтых палажэнняў, напрыклад гітлераўцы на ўсходзе ці японцы ў Азіі, якіх лічым злачынцамі. „Буры" гэтаксама парушыў гэтыя правілы. Голас з залы: — Сумленныя жаўнеры не парушылі гэтых прынцыпаў, у тым ліку і жаўнеры-нарадоўцы і аднолькавае іх трактаванне са злачынцамі абражае памяць сумленных.

На даклад з'явілася і некалькі маладых нарадоўцаў, аднак прыбылі яны ўжо пасля дакументальнага фільма, прысвечанага постаці „Бурага", дзе выказаліся не толькі жыхары пацыфікаваных ім у нас вёсак, але і яго баявыя таварышы з Віленшчыны; і апошнія не скрывалі адмоўных рысаў ягонага характару; адзін з іх назваў „Бурага" садыстам. На пытанне, чаму спозніліся, патлумачылі, што былі на імшы. І вось гэтыя маладыя людзі кантэставалі архіўныя дакументы, якія быццам не даюць ніякіх падстаў для абвінавачвання іхняга куміра. Адзін з іх назваў цынізмам меркаванне пра „Бурага" на аснове тых дакументаў, бо, паводле яго, гэтыя доказы ягонай віны былі мэтанакіравана зманіпуляваны.

У завяршэнне дыскусіі прафесар Дмітруў выказаў шкадаванне, што маладыя людзі трагічна не ведаюць гісторыі і замест верыць удакументаваным і навукова правераным фактам, трапляюць пад уплыў папулярных штампаў.

* * *

Даўнавата быў я ў Занях, Шпаках, Красным Сяле. Помнікі ахвярам „Бурага" выглядалі там прызабытымі. Сёлета заглянуў я ў Залешаны і на могілкі ў прыходскіх для Залешан Саках. На эпітафіі ў Залешанах паказваюцца плямы забыцця. Сам помнік здаецца быць пастаўлены ўладамі папярэдняй палітычнай афарбоўкі... На могілках у Саках спадзяваўся я знайсці нейкае ўвекавечанне ад самога тамашняга грамадства. Жанчына, якая акурат вярталася з тамашняй царквы, паінфармавала, што гэта высокі драўляны крыж зараз за царквой. Але гэта падзячны крыж за выжылага. Затое непадалёк ад уваходу прыкмеціў я цэментны помнічак з вельмі загадкавай эпітафіяй з 1976 года. Прабаваў я пасля даведацца ў сакоўскіх старажылак, ці той помнічак, пастаўлены роўна трыццаць гадоў пасля трагедыі, не прысвечаны ёй; адказалі што нічога пра гэта не ведаюць...

Суд Варшаўскай ваеннай акругі, які ў 1995 годзе выбеліў „Бурага", тоненька адобрыў тэрор — запалохванне насельніцтва. І яно запалохана. Не толькі падзвігамі „Бурага", але і прысудам таго суда, і стаўленнем племяннай варшаўкі. А высновы следства беластоцкага аддзялення ІНП, гэта толькі прыгожы фігавы лісток для грамадзян другой катэгорыі.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Мілейчыцкі юбілей

**Сёлета Мілейчычы адзначаюць слаўны юбілей — 500-годдзе прысваення гарадскіх правоў. Святкаванні праходзяць у дзвюх частках. У маі — чыталіся гістарычныя лекцыі, якім спадарожнічалі фотавыставы і канцэрт калектываў. У ліпені плануецца двухдзённы фестываль культур з удзелам беларускіх, украінскіх, яўрэйскіх, татарскіх і літоўскіх калектываў.**

Першая частка святкаванняў адбылася 14 мая — роўна ў пяцісотую гадавіну прысваення гарадскіх правоў. У гэты дзень у вясковай святліцы гісторыкі і краязнаўцы прачыталі цыкл лекцый, прысвечаных мінуламу мястэчка (будуць яны апублікаваны ў кніжнай форме). Мерапрыемства адкрылі войт Мілейчыцкай гміны Юрый Івановец і загадчыца Гміннага асяродка культуры Моніка Балут.

Гістарычныя лекцыі папярэдзіла чытанне зместу прывілеі караля Жыгімонта I Старога ў арыгінале — на старажытнабеларускай мове — і ў перакладзе на польскую мову. Зрабіў гэта ўраджэнец Мілейчыч і даследчык яго найдаўнейшага мінулага Раман Мікалаевіч. У дакладзе «Гісторыя Мілейчыч — ад старажытнасці да нашага часу» звярнуў ён увагу на першабытнае пасяленне, аб чым сведчаць археалагічныя знаходкі прымітыўных прылад працы чалавека. Гэтае пасяленне дакладчык схіляецца лакалізаваць на заходняй ускраіне цяперашніх Мілейчыч, на астраўку, акружаным трыма рачулкамі.

Юрый Гаўрылюк зачытаў даклад «Пачаткі ўсходняга хрысціянства на землях гістарычнага Падляшша». Першыя пісьмовыя згадкі пра цэрквы паходзяць менавіта з 1516 года — існавалі тады два храмы св. Варвары і св. Мікалая. А драўляны касцёл кароль Жыгімонт I фундаваў у 1529 годзе. У 1556 годзе быў ён разабраны і на яго месцы пабудаваны новы.

Даклад Дарафея Фіёніка «Гарадскія правы Мілейчыч і іх генезіс» зачытаў Тамаш Суліма (сам аўтар з дакладам пра бежанства ўдзельнічаў у канферэнцыі, прысвечанай 585-годдзю Петрапаўлаўскага прыхода ў Сямятычах). Мілейчычы былі станам у палове дарогі з Мельніка ў Бельск на каралеўскім шляху з Вільні ў Кракаў. Каб палепшыць умовы падарожжа для караля і вялікага князя літоўскага ды Паноў Рады Жыгімонт I прысвоіў Мілейчычам магдэбургскія правы, што паспрыяла развіццю мястэчка. Паўвека пазней кароль Жыгімонт Аўгуст пацвердзіў і пашырыў прывілею на гарадскія правы. Тады Мілейчычы налічвалі 1500 чалавек і 379 сядзібных пляцоў на 11 вуліцах: Варварынская (97 пляцоў з агародамі), Рынак (29), Бельская (41), Альховая (44), Боцькаўская (21), Мітычы (19), Крывая (18), Малая (10), Драгіцкая (80), Мельніцкая (31) і Плябанская (6).




Раман Высоцкі ў дакладзе «Мілейчычы і іх жыхары ў міжваенны перыяд (1918-1939)» адзначыў, між іншым, што самай вялікай трагедыяй для Мілейчыч была пракладка чыгуначнай лініі ў шасці кіламетрах на ўсход ад мястэчка, што адмоўна паўплывала на пазнейшыя грамадска-эканамічныя працэсы.

Пра асобу пахаванага ў Мілейчычах лекара Мацея Лавіцкага, паплечніка Францішка Савіча, гаварыў ніжэйпадпісаны. Мацей Лавіцкі (1816-1900) нарадзіўся ў Васьках (Нараўская гміна) у сям'і збяднелага шляхціца. У час вучобы ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі ўдзельнічаў у падпольным студэнцкім «Дэмакратычным таварыстве», заснаваным Францішкам Савічам. Сябры таварыства лічылі сябе прадаўжальнікамі справы філаматаў і філарэтаў. Савіч за ўдзел у незаконнай арганізацыі быў арыштаваны і сасланы на Каўказ у салдаты без выслугі. Пацярпелі таксама яго паплечнікі, у тым ліку і Мацей Лавіцкі. У 1842 годзе быў ён прыгавораны да службы ва Усходняй Сібіры, дзе 16 гадоў працаваў вайсковым лекарам. Пасля вызвалення ад вайсковай службы працаваў павятовым лекарам у Коўне і Беластоку. У 1863 годзе выйшаў на пенсію і два гады пазней пераехаў на сталае жыхарства ў раней набыты маёнтак у Нурчыку каля Мілейчыч. Там займаўся лекарскай практыкай і пчалярствам, аказваў бясплатныя медыцынскія паслугі навакольным сялянам. Пахаваны каля праваслаўнай капліцы св. Мікалая на старых могілках у Мілейчычах.

«Мілейчыцкія яўрэі — іх лёс, памяткі, дакументы і старыя фатаграфіі» — гэта тэма лекцыі Монікі Балут. Яўрэі сталі тут сяліцца ў XVI стагоддзі, а пад канец XIX ст. складалі ўжо палову насельніцтва. У міжваенны перыяд Мілейчычы для яўрэйскага насельніцтва сталі курортнай мясцовасцю. З Беластока, Варшавы, а таксама з Заходняй Еўропы прыязджалі сюды хворыя на туберкулёз, каб на дачах у сасновым лесе падмацаваць здароўе жывічным паветрам. У сезоне на аздараўляльны адпачынак прыязджала 2-4 тыс. чалавек, галоўным чынам яўрэяў. Мілейчыцкая яўрэйская абшчына стала ахвярай Галакосту. Сёння аб ёй напамінаюць мураваная сінагога, рэшткі кіркута, некаторыя будынкі, старыя дакументы і фатаграфіі.

Дэманстраваўся таксама дакументальны фільм Малгажаты Біль-Ярузельскай „**Kresy na wpół umarłe**", прысвечаны мястэчку. У аўтаркі карціны — мілейчыцкія карані. Тут жыў яе дзед Антоні Трахімяк, у якога правяла дзяцінства.

У зале вясковай святліцы працавалі дзве фотавыставы: «Мілейчыцкія сантыменты ў фатаграфіі зачараваныя» Яраслава Яна Яленскага і «Мілейчычы ў старой фатаграфіі» — з калекцыі Гміннага асяродка культуры. Прэзентаваліся таксама пластычныя працы вучняў мясцовага комплексу школ.

Пасля лекцыйнай часткі ў школьнай спартзале адбылася мастацкая частка, у ходзе якой выступілі татарскі калектыў «Буньчук» з Беластока, «Жэмэрва» з Бельска-Падляшскага, «Тэнча» і «Незабудкі» з Нурца-Станцыі ды «Польныя макі» з Далубова.

**Віталь ЛУБА**




# http://grsu.by

Ёсць у Беларусі ўніверсітэт, які ў апошнія гады стаў узорам цкавання і пераследу гісторыкаў. Зразумела, не ўсіх, а толькі тых, хто стаіць на пазіцыях нацыянальнага, беларусацэнтрычнага погляду на гісторыю краіны, горада, народа. Гэта — Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Менавіта адтуль былі выгнаны некалькі выкладчыкаў, сярод якіх Вячаслаў Швед, Андрэй Чарнякевіч, Іна Соркіна, Ігар Кузьмініч.

Гродзенскае ВНУ, дзе цяпер з такой лёгкасцю развітваюцца з кваліфікаванымі спецыялістамі, было створана праз год пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, і называлася настаўніцкім інстытутам. Пра гэта распавядаецца на сайце ўніверсітэта, што месціцца па адрасе **www.grsu.by**, у рубрыцы „Гісторыя". Потым ён называўся педагагічным інстытутам, а з 1978 года набыў сучасную назву. „У 2015 годзе ГрДУ імя Янкі Купалы дамогся другога месца сярод нацыянальных ВНУ ў міжнародным рэйтынгу Webometrics і ўвайшоў у дзясятку лепшых ВНУ краіны па асноўных паказчыках дзейнасці", — ганарліва распавядаецца ў „гістарычным" артыкуле. Праўда, ні там, ні ў іншых рубрыках сайта знайсці інфармацыю пра звальненні выкладчыкаў і адпаведны рэзананс у СМІ не ўдасца. Яе там папросту няма. Затое ёсць шмат інфармацыі пра тое, як далучыўся ўніверсітэт да ўсіх палітычных мерапрыемстваў, такіх як, напрыклад, выбары прэзідэнта. Пра гэта найбольш падрабязна распавядаецца ў рубрыцы „Пра нас пішуць СМІ".

Варта адзначыць, што ўвогуле сайт універсітэта з'яўляецца нейкай мешанінай уласнай інфармацыі, калі, напрыклад, гэта тычыцца раскладу заняткаў ці звестак аб факультэтах, і інфармацыі іншых рэсурсаў, якія ніякага дачынення да Гродзенскага ўніверсітэта не маюць. Так, клікнуўшы на „Галоўныя падзеі 2015 года ў Рэспубліцы Беларусь", што месціцца ў раздзеле „Каляндар значных падзей", мы апынемся на артыкуле праўладнай газеты „СБ-Беларусь сёння". Паводле аўтараў публікацыі, з якімі цалкам згодны тыя, хто вучыць моладзь у Гродне, найбольш значнымі для іх леташнімі падзеямі былі зноў жа выбары прэзідэнта Беларусі, перамовы па Украіне, будаўніцтва кітайска-беларускага індустрыяльнага парку, падрыхтоўка да дэнамінацыі беларускіх грошай, працы па стварэнні аб'язной дарогі вакол Мінска, уцекачы ў Еўропе, тэрарысты, цана на нафту. Такім чынам для Гродзенскага ўніверсітэта, які праўдападобна дарма носіць імя Янкі Купалы, атрыманне Нобелеўскай прэміі беларускай Святланай Алексіевіч значыць нашмат меней, чым уцекачы з Блізкага Усходу ў Еўропе, бо нават не вартае згадкі.

Магчыма, цікаўны наведвальнік сайта захоча па-беларуску пазнаёміцца з распаведам аб візіце ў Дзяржаўную вышэйшую школу прадпрымальніцтва і інфармацыйных тэхналогій у падляшскі горад Ломжу і клікне на актыўную спасылку. Але ніякай інфармацыі там ён не знойдзе, а тамтэйшы здымак ніякім чынам не раскрывае сутнасці загалоўка. Прычым, па ўсім раздзеле „Міжнародная дзейнасць", які нібыта змяшчае два артыкулы, сітуацыя такая ж. Праўда, гэтыя ўсе хібы тычацца беларускамоўнай версіі сайта. У рускамоўнай усё выглядае як мае быць.

Зараз у Беларусі многа кажуць пра занепад вышэйшай адукацыі. Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, зважаючы на яго сайт і адносіны да выкладчыкаў, пэўна, найлепшая гэтаму ілюстрацыя. І ніякія міжнародныя рэйтынгі Webometrics тут ужо не выратуюць.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

### Сапраўдны ваяр, герой вызвольнага чыну



## 190 гадоў з дня нараджэння Зыгмунта Серакоўскага

Адзін з герояў і кіраўнікоў вызвольнага паўстання 1863 г. Зыгмунт Серакоўскі нарадзіўся 30 траўня 1826 г. у вёсцы Лісавое (цяпер Маневіцкі раён, Валынская вобласць, Украіна). Ягоны бацька быў беззямельным шляхціцам, які загінуў у шэрагах паўстанцаў 1830 г. У 1845-1848 г. Зыгмунт вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, дзе ўзначальваў таемнае таварыства Саюз літоўскай моладзі. У 1848 г. трапіў пад падазрэнне ў намеры выехаць у Аўстра-Венгрыю. Быў арыштаваны расейскай уладай і адпраўлены шараговым служыць у Арэнбургскі лінейны полк Арэнбургскага асобнага корпуса. Там пазнаёміўся з Тарасам Шаўчэнкам, Браніславам Залескім, іншымі вядомымі асобамі-іншадумцамі з ліку ссыльных. У сакавіку 1856 г. атрымаў чын прапаршчыка і быў пераведзены ў 7-мы батальён Берасцейскага пяхотнага палка. Вярнуўшыся ў Пецярбург, паступіў вучыцца ў Акадэмію Генштаба, якую паспяхова скончыў у 1859 г. у чыне капітана.

Яшчэ ў час вучобы Серакоўскі быў адпраўлены за мяжу даследаваць і назіраць турмы Заходняй Еўропы. Паслядоўна выступаў за шанаванне вайсковай годнасці і адмену цялесных пакаранняў у войску. Пазней служыў у дэпартаменце Генеральнага штаба і займаўся ваенна-крымінальнай статыстыкай. У Еўропе пазнаёміўся з Аляксандрам Герцанам і Джузэпэ Гарыбальдзі. Супрацоўнічаў з вядомымі вольналюбівымі часопісамі «Колокол» і «Современник». У чэрвені 1860 г. разам з Ігарам Вярнадскім удзельнічаў у працы IV Міжнароднага статыстычнага кангрэса ў Лондане.

У 1863 г. пасля пачатку Студзеньскага паўстання ў Варшаве Зыгмунт Серакоўскі атрымаў двухтыднёвы адпачынак на службе дзеля выезду за мяжу. Выехаў у Літву, дзе стаў адным з лідараў паўстанцкага руху. Абвясціў сябе генералам Літоўскім і Ковенскім пад імем Далэнга. За кароткі тэрмін сабраў 5-тысячны паўстанцкі атрад, які 23-24 красавіка быў разбіты рэгулярнымі расейскімі войскамі. Аднак частка атрада ацалела і працягнула змаганне. У наступнай бітве ля мястэчка Біржы паўстанцы былі канчаткова разбітыя. Сам Серакоўскі быў паранены ў грудзі навылёт і трапіў у палон. Перад ваенна-палявым судом прамаўляць адмовіўся, патрабуючы суду галоснага ды прысяжнага. Судовы вырак быў прадказальным: смяротнае пакаранне. Аднак расстрэл замянілі павешаннем. Прысуд выкананы ў Вільні на Лукішскай плошчы, дзе крыху пазней павесілі і Кастуся Каліноўскага. Карную смерць ад акупантаў Серакоўскі прыняў 27 чэрвеня 1863 г. Мураўёў-вешальнік прапаноўваў Серакоўскаму жыццё з той умовай, каб ён выдаў сваіх паплечнікаў, але паўстанец — як сапраўдны ваяр — адхіліў гэтую ганебную прапанову.

Зыгмунт Серакоўскі быў жанаты з Апалоніяй Далеўскай (гады жыцця 1841 — пасля 1915), сястрою вядомых паўстанцкіх змагароў братоў Далеўскіх. Сучаснікі называлі яе «першай прыгажуняй Літвы», а вяселле маладых — «апошняй мазуркай у Літве». Апалонію пасля паразы вызвольнага чыну выслалі ў Белазёрск, аднак даехала яна толькі да Ноўгарада. Калі мужа каралі смерцю, яна была цяжарнай. У кастрычніку 1863 г. нарадзілася дачка, якая пражыла толькі год. Век жа самой Апалоніі Серакоўскай быў дастаткова працяглым. З 1867 г. яна жыла ў Варшаве, пакінула ўспаміны пра паўстанне.

Імя Зыгмунта Серакоўскага ў Беларусі дагэтуль не ўшанаванае ніяк.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞працяг

## БАСу — 35

беларускай мовы ў царкоўную практыку ў акадэмічных асяродках краіны, наладзілі таксама супрацоўніцтва з „Нівай”, рэдагуючы ад 19 студзеня 1986 г. у тыднёвіку штомесячную студэнцкую старонку пад загалоўкам „Прысутнасць”. Усё-такі праблемай было таксама падпарадкаванне РК СБН вышэйшай арганізацыйнай адзінцы — ЗПС. Праблемы гэты былі дыскутаваны на **І З’ездзе беларускіх студэнтаў**, арганізаваным у Бельску-Падляшскім 28-29 сакавіка 1987 г. Прысутнічала ў ім каля 130 студэнтаў беларускай нацыянальнасці з розных акадэмічных асяродкаў Польшчы (Беласток, Варшава, Люблін, Ольштын, Гданьск, Лодзь, Кракаў), ліцэісты з абодвух белліцэяў (Бельск, Гайнаўка), а таксама запрошаныя госці — прадстаўнікі БГКТ, „Нівы”, ЗПС, мясцовыя ўлады, а таксама прадстаўнікі царкоўных маладзёжных арганізацый. У выніку двухдзённых дыскусій было вырашана: арганізаваць новую студэнцкую арганізацыю — **Беларускае аб’яднанне студэнтаў** (аднагалосна), пры дапамозе ЗПС арганізаваць кантакт з маладзёжнымі арганізацыямі ў БССР; стварыць турыстычную базу на Беласточчыне; накіраваць у Польскае турыстычна-краязнаўчае таварыства пісьмо з просьбай разметкі новых шляхоў па Беласточчыне; стварыць КР СБН ЗПС у Ольштыне; намагацца ў епіскапаце ПАПЦ увядзення беларускай мовы ў багаслужбы; арганізаваць штогадовыя агляды мастацкай творчасці студэнтаў нацыянальных меншасцей; намагацца дэпаланізацыі мясцовых назваў на Беласточчыне; заснаваць Фонд развіцця і аховы беларускай спадчыны; аднавіць маладзёжную секцыю пры БГКТ (з архіва БАС). Пасля нейкіх праблем 29 лістапада 1988 г. прылічваюць БАС у рэгістр таварыстваў і звязаў, у выніку чаго з’яўляецца ён другой арганізацыяй беларусаў у Польшчы. Гэтым чынам у Польшчы з’яўляецца першая **зусім незалежная** афіцыйная арганізацыя нацыянальных меншасцей, паколькі ўсе меншасныя культурна-грамадскія таварыствы (у тым ліку і БГКТ) падлягалі ў ПНР строгаму нагляду Міністэрства ўнутраных спраў. Гаворачы пра перыяд 1988-1990 гадоў (ад рэгістрацыі БАС і да канца існавання КР СБН ЗСП) вельмі цяжка размежаваць, якія з мерапрыемстваў арганізавала тая ці другая арганізацыя — усе проста стваралісь ў паразуменні. Час аказаўся вельмі плённым для дзейнасці беларускіх студэнтаў, якія працягвалі арганізаваць ранейшыя ініцыятывы, але заснавалі новыя напрамкі дзейнасці, як, напрыклад, Беларускі народны ўніверсітэт, намагаліся стварыць танцавальны калектыў (пад назвай „Лявоніха”), інтэгравалі беластоцкае асяроддзе ў формуле супрацоўніцтва з Брацтвам праваслаўнай моладзі, арганізавалі турнір „Свята беларускай моладзі”, супрацоўнічалі з замежнымі беларускімі арганізацыямі (з БССР ды Канады і ЗША), правялі конкурс беларусаведы. Паколькі часопіс „Сустрэчы” застаўся выдавацца пад крыламі КР СБН ЗПС, у 1989 годзе БАС самастойна выпусціў у свет 3 нумары газеткі „Апошнія паведамленьні БАС”. 1989 год і пачатак дзевяностых гадоў быў перыядам самага буйнага развіцця беларускага студэнцкага руху. Вельмі складана акрэсліць лік студэнтаў, якія прымалі ўдзел у працах БАС. Напачатку 1989 года існавалі ўжо гурткі БАС у Варшаве ды Беластоку, у сакавіку гэтага года заснавана было БАС у Любліне, у красавіку ў Гданьску, у снежні ў Ольштыне, а напрыканцы 1990 г. студэнты арганізавалі гурток БАС у ЗША. Яшчэ да 1989 года БАС прымае ўдзел у падпольным палітычным жыцці краіны. Яго члены былі сярод заснавальнікаў спачатку **Беларускага клуба**, а потым Беларускага дэмакратычнага аб’яднання (**БДА**), прадстаўнік БАС Яўген Вапа прымаў удзел у працах камісіі па справах нацыянальных меншасцей пры Грамадскім камітэце старшыні прафсаюза „Салідарнасць” Леха Валэнсы. У 1991 годзе ў рамках супрацоўніцтва БДА, БГКТ, БАС, Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа” і Грамадскага камітэту пабудовы беларуская музея ў Гайнаўцы стварэцца праект Рады беларускіх арганізацый, якая паклалася ў аснову пазнейшага **Беларускага саюза** ў Польскай Рэчы Паспалітай.

(заканчэнне будзе)

**(лук)**

## Кветкі толькі ў цэнтры

Зараз у Гайнаўцы шмат зелені і прыгожа цвітуць кветкі на клумбах у цэнтры горада, між іншым, на скверыках пры гарадской управе і пры гарадской бібліятэцы ды на скрыжаваннях галоўных вуліц: 3 Мая, Ю. Пілсудскага ды 3 Мая і С. Баторыя, а таксама ў вазонах-кветніках на вуліцы 3 Мая і кс. І. Верабея.

Кветкі ўпрыгожваюць таксама скрыжаванні вуліц з кругавой развязкай 3 Мая, Варшаўскай і кс. І. Верабея, ля макетаў двух зуброў на скрыжаванні вуліц С. Баторыя, а. А. Дзевятоўскага і Спартыўнай ды Варшаўскай і Ю. Пілсудскага.

Летам будзе пасаджаных яшчэ больш кветак — ужо летніх. Будзе іх аднак менш, чымсьці было ў мінулых гадах. Гарадскія ўлады лічаць кожны грош. Дбаюць перш за ўсё пра тое, каб на вуліцах былі парадак і чысціня.

**(яц)**



**Аб’яднанне АБ-БА**
**запрашае на Падвядзенне вынікаў артыстычнай працы дзяцей і моладзі ў навучальным годзе 2015/2016**

**05.06.2016**

**10⁰⁰ Царква св. Юр’я ў Беластоку**
**Малебен за дзяцей, моладзь, бацькоў і настаўнікаў**

**06.06.2016**

**17⁰⁰ Драматычны тэатр імя А. Вянгеркі ў Беластоку**

**У ПРАГРАМЕ:**

Спектаклі ў выкананні ўдзельнікаў Тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр”:

***Жабкі і Чарапашка***
**сцэнарый** *Сяргей Кавалёў,*
**рэжысура** *Іаанна Троц*

***Хто сказаў «Мраў»***
**сцэнарый** *Зофія Вуйцік,* **у перакладзе** *Аліны Ваўранюк,* **рэжысура** *Іаанна Троц*

***Нататкі таткі***
**песні на словы** *Андрэя Хадановіча,* **музыка** *Анна Бабік,* **рэжысура** *Аліна Ваўранюк і Бернард Мацей Баня*

***Казка пра Рыцара без Каня***
**сцэнарый** *Марта Гусьнёўская,*
**у перакладзе** *Аліны Ваўранюк,*
**рэжысура** *Аліна Ваўранюк і Бернард Мацей Баня*

***Канцэрт гурта Баламуткі***
**падрыхтоўка** *Кірыл Ліпай*

***Канцэрт гурта Баламуты***
**падрыхтоўка** *Павал Азябла*

***Паказ танцаў у выкананні групы, якая працуе пры Студыі фальклору і беларускай песні***
**падрыхтоўка** *Аксана Прус*

## 05.06 — 11.06

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш мець шанцы закончыць штосьці, што даўно пакінуў. Але 7-11.06. можаш пачуць жорсткую праўду пра сябе. Хоць лёс кіне табе не адзін выклік, цяпер пераможаш кожную перашкоду. У пачуццях ніякіх гвалтоўных рухаў! Твой поспех на працы — поспех усёй фірмы. Але з 7.06. (да 15.06.) можаш быць пастаўлены перад цяжкім выбарам — або павышэнне, або лаяльнасць да супрацоўнікаў.

**(21.04. — 21.05.)** Перастанеш урэшце турбавацца, убачыш светлыя бакі жыцця. Забудзеш мінулае балючае ў пачуццях. Будуць нагоды добра падзарабіць або выйграць у латарэю (увесь чэрвень!).

**(22.05. — 22.06.)** Шчасце спрыяе табе. Адважна станеш перад праблемамі і пераможаш перашкоды. Маеш шанц аднавіць адносіны з партнёрам, даўнімі знаёмымі ці раднёй. Магчымасці пашырэння прафесійных кантактаў. Маеш неспадзяваную арганізацыйную жылку і добры нос да інтарэсаў. Форма знакамітая, танцуй.

**(23.06. — 23.07.)** Прыйдзецца змярыцца табе з праціўнасцямі лёсу, ды незалежна ад гэтага не адмаўляйся ад мар. Крыху слабейшы імунітэт (магчымая алергія, інфекцыя) — лепш паляжы. Не спяшайся, гэта не час здабываць свет, лепш аналізаваць свае патрэбы і матывы (гэта любіш). Выклічаш вялікае зацікаўленне іншага полу, але будзе думка пра адно, так што не спадзявайся нейкага космасу.

**(24.07. — 23.08.)** 4-5.06. неспрыяльныя акалічнасці прымусяць адмовіцца ад некаторых планаў. 5-9.06. тое, што здавалася быць простым, можа ўскладніцца. Творчыя задумы і пачуццё гумару. Будзеш несумненным каралём кампанейскіх сустрэч; нават калі штосьці ляпнеш, сябры даруюць табе. На працы трэба будзе падпарадкавацца рэгламенту; можаш збунтавацца. Выдатная форма, калі нават ты доўга хварэў — паправішся.

**(24.08. — 23.09.)** Атрымаеш падтрымку з неспадзяванага боку. Паявяцца нагоды, якіх ты доўга чакаў — добра на працы і ў інтарэсах. 7-11.06. Дзевы з другой дэкады знака могуць браць услепую кожную прапанову працы. 4-5.06. заснаўвай фірму, але будзь памяркоўным і цярплівым. Не бараніся перад зменамі, пойдуць яны табе к дабру. Многа шанцаў. Але будзь вельмі асцярожным, бо шмат спраў можа мець другое дно. Трэба будзе апекавацца не сваім дзіцём або звяркам.

**(24.09. — 23.10.)** 5.06. шанц на росквіт кахання і рэнесанс сяброўства. Але 4-6.06. магчымыя цяжкасці з паразуменнем з некаторымі сямейнікамі. У пачуццях пара рашаць. На працы вазьмі пару дзён адпачынку. Хаця 4-6.06. можа паявіцца хтосьці з гарачымі грашыма, хто мог бы сфінансаваць твае задумы. Добра высыпайся.

**(24.10. — 22.11.)** З 4.06. не разлічвай, што ты штосьці-небудзь папхнеш уперад. Справы будуць хутчэй ускладняцца, чым высвятляцца. Не аглядайся назад і не турбуйся на запас. Хопіць табе займацца тым, што маеш зрабіць тут і цяпер. Паявяцца нагоды пазнаёміцца з кімсьці атракцыйным. Будзеш прыцягваць да сябе людзей. Многа абавязкаў, мусіш быць добра сарганізаваным, не расставацца з гадзіннікам і календаром, асабліва ад 9.06. 7-11.06. абмінай нямілых табе людзей.

**(23.11. — 22.12.)** Можаш здабыць прызнанне і прадставіць свае поспехі ў шырэйшай кампаніі. Будзеш прыгнечаны абавязкамі, але не паддавайся благім настроям. На працы твае акцыі растуць. Можаш прасіць у шэфа павышэння або падбаўкі. Не расказвай аб планах, а іх ажыццяўляй. Пааплачвай усе рахункі. Дбай аб здароўе, еж гародніну, на пячонку пі насенне малочнага чартапалоху (астрапест).

**(23.12. — 20.01.)** 4-6.06. хтосьці схоча падараваць тваю кампетэнтнасць. 11.06. сітуацыі, якіх ты баішся, абернуцца на тваю карысць. Калі будзеш ведаць чаго хочаш, тое і здабудзеш. Пасля будзе час на прыемнасці. 5-12.06. паявяцца шанцы паправіць тое, што ты раней папсаваў.

**(21.01. — 19.02.)** Зазззяеш магічнай аўрай, пазнаюць цябе з найлепшага боку. Хутка афармляй розныя справы. Будуць змены, на лепшае. Нават спачатку някарысныя сітуацыі фінальна абернуцца на тваю карысць. 3-7.06. пачуеш прызнанне ў любові ад асобы, якая з’яўляецца тваім сябрам. Лепш абярні гэта ў жарт, каб не папсаваць сяброўства.

**(20.02. — 21.03.)** Пагадзіся з тым, на што не маеш уплыву, а шмат спраў абернецца з карысцю для цябе. Будзеш рабіць памылкі, але ўпадзеш на чатыры лапы. Не рабі нічога сілай пры перашкодах. Увесь чэрвень спадзявайся мілых сюрпрызаў ад лёсу, улічваючы вялікае каханне ці выйгрышы ў латарэю. Да 12.06 паздавай усе экзамены. І не шкадуй часу на адпачынак.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

| 1 | 2 | 3 | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | | 16 | 17 | 18 |
| | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | 28 | 29 | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

1. не свята = 30 _ 31 _ 32 _ 33 _ 29 _ 28 _ 27 _;
2. складны паўкруг з пласцінак для абмахвання ў духату = 1 _ 2 _ 34 _ 22 _;
3. край рота або марскі заліў = 21 _ 5 _ 24 _ 23 _;
4. партнёрка казла = 3 _ 13 _ 19 _ 20 _;
5. статуя язычніцкага бажаства = 12 _ 11 _ 8 _ 9 _ 10 _;
6. найбліжэйшы продак жаночага роду = 14 _ 25 _ 26 _ 15 _;
7. лясная пеўчая птушка з... гміннага цэнтра між Нарвай і Орляй = 4 _ 7 _ 6 _;
8. карыкатурна-гумарыстычны партрэт = 35 _ 17 _ 18 _ 16 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**

Глебка, аазіс, прыём, Чыкага, штаны, кабарэ, блін, Ашхабад, каўнер.

Рашэнне: **Без прычыны і сабака не брэша.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.


**Ніва** — ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (45)



Чаму гэтыя ўсе польскія аўтафуры сляпіцай гоняць у Камень-Каширскі? Якая там прынада, які магніт? Чаму не мяшае ім дзіраве і скамечанае асфальтовае палатно, па якім трэба рухацца ў чарапашым тэмпе, сінячыць азадак і плявацца на ўвесь свет ад злосці? Што там такое ёсць, які мёд там прыхаваны?

Гэтыя пытанні мільгацелі ў мазгах, але нічога не асвятлялі і не тлумачылі. Ужо пасля прыезду ў Камень-Кашырскі нас прывітала пікантная доза неразгаданасці. Калі мы здымалі нумар у гатэлі, сама ўласніца выказала ў наш бок загадкавыя словы:

— Я бачу, вы *не такія!*

Яшчэ больш незразумелыя рэчы дзеяліся ў рэстаране. Усярэдзіну ўсё заходзілі выстылізаваныя прыгажуні. Нягледзячы на познюю пару ночы, ззялі свежасцю і сексапілам. У пэўны момант усе месцы былі запоўнены прыгожым полам. Старая прыказка — там, дзе дзяўчаткі, там абавязкова з'явяцца хлопцы — тут чамусьці не спрацавала. Мужыкі не прыходзілі. Гэта невыносна падбівала настрой знеахвочанасці і фрустрацыі. Уся гэтая прыгажасць здалася непатрэбнай, перабранай. Усе спазіралі з надзеяй на дзверы...

Каб не заснуць за столікам, мы рашылі пайсці яшчэ ў піцэрыю. Там, як падказалі мясцовыя, гуляе звычайная моладзь, для якой выседжваць па рэстаранах не па кішэні.

* * *

Гадзіннік паказваў дзесяць хвілін пасля адзінаццатай вечара. З боку ракі Цыр, якая струменіла лянівым ручайком, павяваў пах свежага балотца. Крэхкалі жабы і брахалі дварнякі ў цёмных панадворках. Камень-Кашырскі замест заснуць, нездарова ажывіўся. Ды яшчэ прачнулася нейкая нячыстая сіла. Пакуль мы трапілі ў жаданае месца, два разы заблудзіліся на простай і асветленай дарозе...

Славутая піцэрыя прамовіла як мініяцюра мясцовага рынку. Месца ўяўляла сабой цесны лабірынт, прасякнуты едкім пахам старога алею. У гастраноме святкавалі дзень народзінаў нейкай Аксаны. На шкляным буфеце, у роўнай шарэнзе стаяла дваццаць элегантных букетаў у цэлафане. Не менш чароўна і элегантна выглядалі ўдзельніцы свята, апранутыя ў доўгія сукенкі, як на вяселле. Тут, як у рэстаране, публіку складалі выключна амаль адны прыгажуні. Яны гулялі з сабой у парах, адбіваючыся аб тоўстачасаныя сталы і шурпатыя сцены.

Хваравіты недахоп полавай раўнавагі застаўляў думаць пра канец патрыярхальнай дамінацыі на Палессі. Каб гэтага было мала, мы трапілі ў эпіцэнтр бабскай разборкі. Перад будынкам піцэрыі заядла ваявалі дзве раз'юшаныя саперніцы. Спрачаліся з-за нейкага Івана, пакуль на вострыя словы. Дзеўкі палівалі сябе граззю і абзывалі к... З піцэрыі даносіўся грукат disco-rusco...



Папраўдзе, цягам апошніх гадоў Камень-Кашырскі не меў шчасця да юбілеяў і гламурных святкаванняў. У 1996 годзе тут шумна адсвяткавалі 800-годдзе існавання горада. Нібыта тады ўпершыню згадалі яго ў пісьмовых крыніцах. Пасля аказалася, што тут адсвяткавалі пачатак Камянца ў Беларусі (дзе Белая вежа), які пазначаны ў крыніцах пад датай 1196 г. Першы запіс пра Камень-Кашырскі з'явіўся дзвесце гадоў пазней. Гэтага хапіла! Няслаўная памылка стала найбольш распаўсюджанай інфармацыяй пра сучасную гісторыю горада.

* * *

У рэшце рэшт мы трапілі ў цэнтр, дзе грымела музыка і раўлі гудкі аўтамабіляў. Вобраз, які раскрыўся перад вачыма, здаваўся палескай, балотнай фата-марганай. На скупа асветлены прывакзальны пляц, пазначаны выбоінамі з бруднымі калюгамі, з'язджаліся, быццам на які пажар, аўтамабілі. З прыадкрытых салонаў машын грымела папса. Ніхто не хваляваўся позняй начной гадзінай. Выглядала так, быццам моладзь на момант узяла ўладу ў горадзе. Як не цікава, на пляцы тусаваўся амаль адзін мужчынскі пол. Найбольш народу тоўпілася ля будкі, дзе гандлявалі півам. Частка маладзёнаў была ўжо здорава набуханая і ледзь стаяла на нагах.




— Ці сёння ў вас якое лакальнае свята? — спытала я асцярожна ў маладзёнаў, якія выстойвалі ў адной чарзе да будкі з напіткамі. Аказалася, што на прывакзальным пляцы святкавалі дзень народзінаў нейкага Сашкі. Прыехалі з цэлага горада, каб праявіць мужчынскую салідарнасць. Недахоп дзяўчат здаваўся чымсьці натуральным. Гэта меў вырашыць сам час і ўзровень алкаголю ў крыві. Мы не сумняваліся, што госці Аксаны і Сашкі ў рэшце рэшт сустрэнуцца.

Начлег у гасцініцы таксама не пакінуў нас без клапатлівых сюрпрызаў. У суседніх нумарах усю ноч, без ніякага сораму і ўтайманьня, займаліся сексам. Любоўныя эксцэсы былі ператканы сцёртымі ўкраінска-польскімі дыялогамі. Пры нагодзе мы зразумелі, што гэта быў той мёд і магніт, які застаўляў шафёраў аўтафураў перціся праз выбоіны ў Камень-Кашырскі. Таму горад запамятаўся нам не толькі як цэнтр гандлю і бізнесу, але і палеская сталіца сексу.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

# XIX

## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XIX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборліва рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XIX Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2016 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2016 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

ISSN 0546-1960